Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 20 (4820) 22 мая 2015 г.

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народнага артыста СССР Андрэя Эшпая з 90-годдзем з дня нараджэння. «На беларускай зямлі высока цэняць Вашы акадэмічныя і эстрадныя творы, вялікую педагагічную работу, неверагодную працаздольнасць і адданасць сваёй справе», — гаворыцца ў віншаванні.

✔ Народны артыст СССР Расціслаў Янкоўскі ўдастоены міждзяржаўнай прэміі «Зоркі Садружнасці». Знакаміты беларускі акцёр адзначаны прэстыжнай узнагародай у галіне гуманітарнай дзейнасці. Урачыстая цырымонія ўзнагароджвання лаўрэатаў пройдзе 6 чэрвеня ў Варонежы, якому ў 2015 годзе прысвоены статус культурнай сталіцы СНД.

✔ Літаратурна-дакументальная выстаўка «Васіль Быкаў. Доўгая дарога дадому» адкрылася ў Маскве ў Пасольстве Беларусі ў Расіі. Асновай экспазіцыі, створанай Дзяржаўным музеем гісторыі беларускай літаратуры, стала апошняя кніга пісьменніка «Доўгая дарога дадому» ды матэрыялы пра яго творчасць з фондаў музея.

✔ Літаратурны музей Максіма Багдановіча 25 мая запрашае ўсіх аматараў творчасці на ўскладанне кветак да помніка паэту ў 13.00 і на вечарыну, прымеркаваную да Дня памяці Максіма Багдановіча. А 18-й гадзіне сучасныя пісьменнікі распавядуць пра свае першыя кнігі.

✔ Прадстаўнікі 12 краін выступяць на XV Міжнародным фестывалі дзіцячай творчасці «Залатая пчолка» ў Клімавічах. Музычны форум пройдзе з 28 па 31 мая. У праграме фэсту — разнастайныя музычныя, культурныя мерапрыемствы і конкурсныя праекты.

✔ Выстаўка «Летапіс Брэсцкай крэпасці ў фатаграфіях» адкрылася ў Маскве ў Пасольстве Беларусі ў Расіі. Акрамя здымкаў, у экспазіцыі прадстаўлены ўнікальныя артэфакты абароны крэпасці, матэрыялы з сямейных архіваў, якія расказваюць пра ўдзельнікаў баявых дзеянняў.

✔ На 68-м Канскім кінафэсце адбылася прэм'ера фільма «Тры ўспаміны з маёй маладосці», які часткова здымалі ў Мінску: прадзюсарам праекта ў Беларусі выступіла французская кампанія «B-Tween Production», партнёрамі пры стварэнні карціны — Нацыянальная кінастудыя «Беларусьфільм» і кампанія «Дэмарш-фільм».

✔ Рамесныя, абрадавыя, лялечныя, тэатральныя ды іншыя народныя традыцыі прадставяць на «Славянскім базары ў Віцебску» майстры з Беларусі, Расіі, Украіны, Літвы, Латвіі і Славакіі на некалькіх пляцоўках у цэнтры горада. Будзе арганізаваны традыцыйны кірмаш рамёстваў «Горад майстроў», пройдзе абласны конкурс гульнявых праграм.

ISSN 0024-4686

**СПЕЦЫЯЛЬНЫ НУМАР ДА Х САНКТ-ПЕЦЯРБУРГСКАГА МІЖНАРОДНАГА КНІЖНАГА САЛОНА**

















# Жывыя літары



Фота Кастуся Дробава

Чытайце на стар. 2

**Унікальны праект — каліграфічная кніга «Ад Марка Святое Благавестыванне» («От Марка Святое Благовествование») мастачкі з Санкт-Пецярбурга Апалінарыі Мішынай прадстаўлены ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі. Адбылося і адкрыццё выстаўкі арыгінальных графічных лістоў, якія сталі эталонамі для незвычайнага выдання.**

# Пецярбург у лёсе Янкі Купалы

Санкт-Пецярбург. Горад-гісторыя, горад-легенда. Лёсы славутых вучоных, грамадскіх дзеячаў, мастакоў сталі неад'емнай часткай яго мінулага. З ім непарыўна звязаны жыццёвыя і творчыя лёсы Аляксандра Пушкіна, Тараса Шаўчэнкі, Адама Міцкевіча — творцаў, якія акрэслівалі шляхі развіцця нацыянальных літаратур Расіі, Украіны, Польшчы, закладалі асновы сучаснай літаратурнай мовы, былі праваднікамі ідэй, што і сёння вызначаюць нацыянальную адметнасць рускай, польскай, украінскай культуры. Праз Пецярбург таксама прайшоў жыццёвы і творчы шлях Янкі Купалы.

Чытайце на стар. 6



*Янка Купала на кватэры Б. Эпімах-Шыпілы ў Санкт-Пецярбургу.*

# Кніга на службе Перамогі

21 мая ў паўночнай сталіцы Расійскай Федэрацыі адбылося ўрачыстае адкрыццё Х Санкт-Пецярбургскага міжнароднага кніжнага салона. Сёлета ў Піцер выправілася вялікая дэлегацыя пісьменнікаў, выдаўцоў, кнігагандляроў з Беларусі на чале з міністрам інфармацыі Рэспублікі Беларусь Ліліяй Ананіч. І гэта невыпадкова: наша краіна запрошаная на прэстыжны форум у якасці ганаровага госця.

Такі значны статус абумовіў і грунтоўнасць праграмы ўдзелу Беларусі ў Кніжным салоне: мноства прэзентацый, «круглых сталоў», дзелавых сустрэч, абмеркаванняў і нават канцэрт вакальнага калектыву «Чысты голас». Каб больш падрабязна даведацца пра беларускія імпрэзы, што праходзяць гэтымі днямі ў Санкт-Пецярбургу, мы звярнуліся да начальніка ўпраўлення выдавецкай дзейнасці і гандлю Міністэрства інфармацыі Беларусі Алены Паўлавай.

— Алена Савельеўна, якімі рысамі адрозніваецца Санкт-Пецярбургскі Кніжны салон? Як тут прымаюць Беларусь?

Чытайце на стар. 2

# Жывыя літары

Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.

Імпрэза была арганізаваная галоўнай кніжніцай краіны, сталічнай Галерэяй графікі «Кніжны салон» пры падтрымцы выдавецтва «Віта Нова» (Санкт-Пецярбург). Адметна, што Мінск стаў другім пасля Масквы прыпынкам у падарожжы гэтай знакавай мастацкай работы.

Каліграфічная кніга, якая змяшчае тэкст Евангелля ад Марка на царкоўнаславянскай мове і сінадальным перакладзе на рускую мову і больш як 100 ілюстрацый, ілюмінаваных сусальным золатам, атрымала высокую адзнаку з боку Рускай Праваслаўнай Царквы. Тыраж выдання — 11 асобнікаў. Тры з іх надрукаваныя на чорнай паперы, астатнія восем — на паперы крэмавага колеру. Адзін з чорных асобнікаў — найбольш каштоўных у накладзе — належыць аўтарцы, яшчэ адзін захоўваецца ў Маскоўскім музеі каліграфіі, а трэці рарытэт (дарэчы, з парадкавым нумарам «2», упісаным у пашпарт кнігі рукой самой Апалінарыі) будзе выстаўлены на продаж. Кожны з асобнікаў кнігі ўнікальны.

Прафесар, мастак-каліграф, сябар Беларускага саюза дызайнераў, Беларускага саюза мастакоў, Расійскага Нацыянальнага Саюза Каліграфаў Павел Семчанка заўважыў:

— Калі знаёмішся з гэтым праектам — дзівуешся, якую дабрыню, шчырасць і блаславенне павінен мець мастак, каб ад пачатку да канца вытрымаць гэтую складаную і скрупулёзную працу. Захоўваць лінію тэксту, выявы, колеравую гаму, кампазіцыйны лад. А калі ўлічваць, што гэта не проста напісаны ад рукі тэкст, а работа, выкананая ў тэхніцы афорту, змадэляваная на метале, то, безумоўна, здзіўляешся яшчэ больш. Такога мы не бачылі!

І сапраўды, прысутныя на вечарыне спецыялісты зазначалі, што для таго, каб разгледзець выстаўленыя для прагляду лісты-эталоны, пазнаёміцца з самім выданнем, часу, адведзенага для прэзентацыі, надзвычай мала. А мастачка радавалася, што яе работа знайшла водгук сярод спецыялістаў. Ды што казаць, фактычна кожны з прысутных на выстаўцы — таксама майстар: каліграф Генадзь Мацур, графік Валерый Слаук, дызайнеры Уладзімір Шолк і Руслан Найдзен, мастацтвазнаўца Таццяна Бембель... Таму іх захапленне асабліва радавала мастачку.

Сама каліграф Апалінарыя Мішына, чые работы захоўваюцца ў зборах Расійскай нацыянальнай бібліятэкі, Маскоўскага сучаснага музея каліграфіі, у Свярдлоўску, Мурманску і Рэспубліцы Комі, распавяла:

— Мне вельмі прыемна і радасна, што я магу прадставіць сваю выстаўку менавіта ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі. Беларусь — гэта краіна высокай кніжнай культуры, і вялікі гонар быць тут. Праца над кнігай доўжылася пяць гадоў, яна змяшчае 155 лістоў, і з іх 104 каляровыя афорты. Я вельмі шчаслівая, што праект пасяхова завершаны, а яго вынікі могуць пабачыць многія.

Паглядзець на лісты-эталоны выдання можна ў галерэі «Лабірынт» і Музеі кнігі Нацыянальнай бібліятэкі. Выстаўка будзе доўжыцца яшчэ тры тыдні. Набыць унікальнае выданне Евангелля ад Марка (Санкт-Пецярбург, Віта Нова) можна ў сталічным «Кніжным салоне».

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# Кніга на службе Перамогі

Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.

— Гэтая міжнародная падзея вылучаецца высокай кніжнай культурай і паважлівым стаўленнем да чытання. Летась нас вельмі здзівіла стаўленне кіраўніцтва Санкт-Пецярбурга да салона — увесь горад быў упрыгожаны плакатамі з партрэтамі і выказваннямі вядомых рускіх і расійскіх пісьменнікаў. Тут заўсёды вельмі моцная і цікавая праграма. І сёлетні салон — не выключэнне. Працуе інтэрактыўная дзіцячая пляцоўка «Наш кніжны сад», праходзяць урокі літаратуры, сустрэчы з вядомымі пісьменнікамі, адкрытыя лекцыі па праблемах развіцця чытання і культуры кнігі. Да Беларусі як краіны і да нас, калег-кнігавыдаўцоў, у паўночнай сталіцы Расіі ставяцца цёпла і добразычліва. Мы прадстаўляем стэнд Пецярбургскаму салону падчас лютаўскай кніжнай выстаўкі, і салон — нам на парытэтных безграшовых умовах.

**— Якія кнігі можна пабачыць на беларускім стэндзе? Якія айчынныя выдавецтвы бяруць удзел у выстаўцы?**

— Натуральна, мы прывезлі з сабой самыя лепшыя кнігі, што пабачылі свет у 2014 — 2015 гадах. Тут прадстаўлены ўсе дзяржаўныя выдавецтвы: «Мастацкая літаратура», «Беларусь», Выдавецкі дом «Звязда», Выдавецкі дом «Беларуская навука», «Адукацыя і выхаванне», «Пачатковая школа», «Народная асвета», «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі», «Вышэйшая школа». Наведвальнікі салона маюць магчымасць пазнаёміцца з кнігамі, выдадзенымі Саюзам пісьменнікаў Беларусі, выдавецтвам «Чатыры чвэрці», «Аверсэв», прадукцыяй прадпрыемства «Белкартаграфія». У выглядзе асобных экспазіцый паказаны пераможцы Нацыянальнага конкурсу «Мастацтва кнігі», а таксама праекты, рэалізаваныя ў нашай краіне да 70-годдзя Вялікай Перамогі. Адметна, што Нацыянальная кніжная палата Беларусі прапанавала для дэманстрацыі некалькі выданняў, што пабачылі свет у гады Вялікай Айчыннай.

**— У нашай краіне сёлета шырока адзначаецца 70-годдзе Вялікай Перамогі. Ці мае і Санкт-Пецярбургскі кніжны салон такі ж «ваенна-пераможны» акцэнт?**

— Вядома, бо 70-годдзе Перамогі — знакавая падзея для расійскага народа. Таму арганізатары салона не абышлі ўвагай гэтую адметную дату. Больш за тое, першы дзень працы выстаўкі стаў тэматычным — «Днём Вялікай Перамогі». У ім прынялі актыўны ўдзел і прадстаўнікі беларускай дэлегацыі. Так, міністр інфармацыі Лілія Ананіч разам са старшынёй Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалаем Чаргінцом прадставілі нашу краіну падчас пленарнага пасяджэння «Вялікая Перамога Вялікай літаратуры». Сёння Мікалай Іванавіч удзельнічае ў пасяджэнні «круглага стала» «Пісьменнікі на вайне, пісьменнікі пра вайну». А члены дэлегацыі нашай краіны праводзяць «круглы стол» «Агульная Перамога: удзел беларусаў у баях за Ленінград» сумесна з супрацоўнікамі рэдакцыі ваеннай газеты «На страже Родины». А яшчэ ў праграме Кніжнага салона — мноства прэзентацый кніг, праектаў, імпрэз, прысвечаных Вялікай Перамозе.

**— Пра культурныя, кніжныя сувязі Беларусі і Санкт-Пецярбурга можна разважаць шмат. Ці стане ўдзел нашай краіны ў якасці ганаровага госця Кніжнага салона новым крокам у супрацоўніцтве?**

— Натуральна, стане. І я магу прывесці некалькі доказаў. Так, учора, 21 мая, у тэматычны дзень Вялікай Перамогі, у дар Расійскай нацыянальнай бібліятэцы перадалі падборку кніг, выдадзеных у нас да 70-годдзя гэтай знакавай падзеі. А сёння праходзіць адкрыццё аддзела беларускай кнігі ў «Парку культуры і чытання» сеткі кнігарняў «Буквоед». Удзел у імпрэзе бярэ генеральны дырэктар «Белкнігі» Аляксандр Вашкевіч. І гэта толькі відавочныя вынікі. Думаецца, плён будуць мець і тэматычныя «круглыя сталы», і прэзентацыі з удзелам аўтараў і выдаўцоў, што адбыліся ўжо і яшчэ адбудуцца ў межах Кніжнага салона.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# Нашы ў Паднябеснай

Дні культуры Беларусі ў Кітаі прайшлі ў сталіцы Паднябеснай на пачатку мая. Падзея яркая і запамінальная для культурнага жыцця абедзвюх краін.

Адкрыццё Дзён культуры адбылося ў канцэртнай зале «Beijing Concert Hall». Кітайскіх грамадзян віталі лепшыя творчыя калектывы нашай краіны: Беларускі дзяржаўны ансамбль народнай музыкі «Свята», салісты Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета. Не абышлося і без прэзентацыі мастацкай творчасці беларусаў: адкрыліся выстаўкі графікі «Пэндзаль Сяброўства» на тэму «Прысвячэнне паэзіі Якуба Коласа» і карцін «Жаночыя партрэты «Срэбны век» беларускай мастачкі Марыны Эльяшэвіч, спецыяліста па кітайскім жывапісе і тэхніцы гохуа. Кіраўніком афіцыйнай дэлегацыі ў Пекіне стаў намеснік міністра культуры Беларусі Васіль Чэрнік.

Правядзенне Дзён нацыянальных культур — добры імпульс для далейшага супрацоўніцтва дзяржаў і ўсебаковага стратэгічнага партнёрства. У будучыні плануецца адкрыццё ў Кітайскай Народнай Рэспубліцы Дзён беларускага кіно, выстаўкі з фондаў Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь, гастроляў Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета. Прамая сувязь паміж сталіцамі ўжо наладжана: нядаўна адкрыты новы авіямаршрут Пекін — Мінск — Будапешт — Пекін.

Дні культуры арганізаваны Міністэрствам культуры Беларусі сумесна з Міністэрствам культуры Кітая пры падтрымцы беларускай дыпламатычнай місіі ў Пекіне.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Прынятыя ў СПБ



**Пётр Іванавіч БУГАНАЎ**

*Секцыя паэзіі*

Нарадзіўся 23 чэрвеня 1953 года ў вёсцы Клямяціна Шумілінскага раёна Віцебскай вобласці. Падчас вайсковай службы завочна скончыў Полацкі політэхнічны тэхнікум. Сябар полацкага народнага літаб'яднання «Надзвіннe».

Аўтар зборнікаў лірыкі «Не отнимите, Небеса…» (Віцебск, 2011), «И мир становится светлей…» (Віцебск, 2014).



**Анатоль Фёдаравіч ДРАЗДОЎ**

*Секцыя прозы*

Нарадзіўся 4 мая 1955 года ў г. Чавусы Магілёўскай вобласці. Завочна скончыў Літаратурны інстытут імя А. М. Горкага (г. Масква). Працаваў у рэдакцыях газет «Советская Белоруссия», «Рэспубліка» ды інш., начальнікам упраўлення інфармацыі і прэс-сакратаром Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь. Заснавальнік і першы галоўны рэдактар газет «Тур-пресс новости» і «Путешественник». Цяпер — аглядальнік часопіса «Беларуская думка».

Аўтар амаль двух дзясяткаў кніг прозы, сярод якіх — «Изумруд Люцифера» (2004), «Интендант третьего ранга» (Масква, 2010), «Кондотьер Богданов» (Масква, 2011), «Рота Его Величества» (Масква, 2012) і г. д.

**Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі запрашае:**

**22 мая** — *на творчую сустрэчу з празаікам Сяргеем Трахімёнкам. Імпрэза пройдзе ў дзіцячай паліклініцы № 25 (вул. Адзінцова, 75). Пачатак а 13-й гадзіне.*

**25 мая** — *на літаратурнае свята «Паэтычны панядзелак», якое адбудзецца ў дзіцячай бібліятэцы № 1 (вул. Гарадскі вал, 3). Пачатак у 17.30.*

**26 мая** — *на юбілейны творчы вечар празаіка Анатоля Драздова ў публічнай бібліятэцы № 5 (вул.Казлова, 2). Пачатак а 17-й гадзіне.*

**27 мая** — *у Школу юнага літаратара пры Мінскім гарадскім аддзяленні Саюза пісьменнікаў Беларусі (вул. Фрунзэ, 5, каб. 309). Пачатак а 15-й гадзіне.*

**28 мая** — *на творчую сустрэчу з пісьменнікам, старшынёй Мінскага гарадского аддзялення СПБ Міхасём Пазняковым, якая пройдзе ў Доме кнігі г. Наваполацка. Пачатак а 13-й гадзіне.*

**28 мая** — *на творчую сустрэчу-інтэрв'ю з пісьменнікам Анатолем Зэкавым. Мерапрыемства адбудзецца ў гімназіі № 29 (вул. Мельнікайтэ, 13). Пачатак а 13-й гадзіне.*

# Конкурс для «Купалянят»

**«На цябе, наша моладзь, надзея», — пісаў сто год таму, звяртаючыся да маладога пакалення, Янка Купала. Паэт заўсёды цёпла ставіўся да юнакоў і дзятвы. У іх ён бачыў спадкаемцаў і прадаўжальнікаў справы адраджэння Бацькаўшчыны. Частымі гасцямі ў Купалавым доме былі хлопцы і дзяўчаты, што рабілі першыя крокі ў мастацтве. Шчодра адораны, Янка Купала шчыра радаваўся, калі яму надаралася адкрыць новы талент.**

Традыцыя падтрымліваць і заахвочваць таленавітую моладзь здаўна існуе і ў Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы. Захаваць непаўторную творчую атмасферу дома паэта імкнуцца тут і сёння. Музей неадноўчы выступаў ініцыятарам і арганізатарам моладзевых творчых праектаў, скіраваных на пошук новых талентаў. Такім праектам стаў і сёлетні гарадскі конкурс творчых работ «Купаляняты», прымеркаваны да 70-годдзя Вялікай Перамогі і Года моладзі, арганізаваны музеем пры падтрымцы Камітэта па адукацыі Мінгарвыканкама. Удзельнікамі сталі вучні 88 школ і гімназій. Конкурсная праграма дазволіла раскрыць здольнасці кожнаму: ад першакласніка да выпускніка. Вучні сярэдніх і старэйшых класаў дэманстравалі майстэрства мастацкай дэкламацыі ў намінацыі «Лепшы чытальнік вершаў». Самыя маленькія ўдзельнікі змагаліся за званне «Лепшы казачнік».

Фінал конкурсу прайшоў напрыканцы красавіка ў Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы і на сцэне Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі.

Фіналы конкурсу ў намінацыі «Лепшы чытальнік вершаў» для вучняў 5 — 8 і 9 — 11 класаў адбыліся 24 і 27 красавіка. Канкурсанты чыталі вершы беларускіх паэтаў, прысвечаныя трагічнай старонцы беларускай мінуўшчыны. Для ўдзельнікаў



*Юная фіналістка конкурсу.*

конкурсу Вялікая Айчынная вайна — не проста факт гісторыі. Звяртаючыся да творчай спадчыны Янкі Купалы, Петруся Броўкі, Максіма Танка, Аркадзя Куляшова, Ніла Гілевіча, Рыгора Барадуліна, Янкі Сіпакова ды іншых, юныя чытальнікі ўзнавілі пачуцці, якія жылі ў душы непасрэдных удзельнікаў і сведкаў: абаронцаў нашай зямлі, іх родных і блізкіх, а таксама дзяцей вайны. Кожны вобраз, кожны крык душы, што ўвасобілі нашыя класікі ў паэтычныя радкі, прайшоў праз душу юных чытальнікаў.

Прафесійнае журы, у склад якога ўваходзілі акцёры Купалаўскага тэатра Сяргей Чуб, Павел Яскевіч, Раман Падаляка, Міхаіл Зуй, вядучы рэдактар Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі Ларыса Паплаўская, пісьменнікі Дзмітрый Дземідовіч, Жанна Туміловіч, Аліна Легастаева, Лізавета Палеес, Генадзь Аўласенка, Таццяна Сівец, Ірына Чарняўская, Аліса Мініна, высока ацаніла талент выканаўцаў. Чытальнікі, што выступілі ў конкурсе з уласнымі вершамі, атрымалі прапанову змясціць свае творы на старонках часопісаў «Бярозка», «Маладосць», штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва». Пераможцамі ў намінацыі сталі Маргарыта Турлюк (СШ № 53), Аляксандра Барысенка (Гімназія № 10), Сафія Масалкова (СШ № 4), Кацярына Кахновіч (СШ № 71), Ірына Кірдань і Аляксандра Пальчонак (СШ № 125), Максім Арбузаў (СШ № 73), Яна Васілеўская (Гімназія № 33).

Атмасфера дзіцячай казкі панавала ў музеі Купалы 25 красавіка. Маленькія казачнікі не проста расказвалі чароўныя гісторыі — многія дапаўнялі аповед уласнымі маляўнічымі ілюстрацыямі. З дапамогай настаўнікаў, бацькоў і сяброў паказвалі сапраўдныя спектаклі, у якіх ажывалі іх казачныя персанажы. Пісьменніцы-казачніцы Алена Масла і Наталля Бучынская, а таксама актрыса і тэлевядучая Ларыса Мятлеўская, якія ацэньвалі майстэрства маленькіх казачнікаў, адзначылі сапраўдныя пісьменніцкія і акцёрскія здольнасці ўдзельнікаў. А намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Вясёлка» Анастасія Радзікевіч і літаратурныя рэдактары Святлана Богуш і Святлана Равіковіч, якія таксама ўваходзілі ў склад журы, прапанавалі дзецям, іх настаўнікам і бацькам апублікаваць казкі на старонках часопіса. Лепшымі казачнікамі па выніках конкурсу сталі Данііл Гур'ян і Глеб Бадзейка (СШ № 53), Лізавета Касінская (СШ № 132), Аляксей Цвялюк (Гімназія № 18), Канстанцін Жыбуль (СШ № 87), Арцемій Іларыёнаў (СШ № 67), а таксама Максім Ракіцкі (СШ № 137), які падзяліў узнагароду са сваімі аднакласнікамі з 1 «В» класа.

Конкурс дапамог раскрыць здольнасці мінскіх школьнікаў. За гэтым поспехам стаіць карпатлівая праца настаўнікаў, якія падтрымлівалі і натхнялі. Важнай для дзяцей, асабліва самых маленькіх, стала і падтрымка бацькоў, якія былі побач, падбадзёрвалі ў час конкурсных хваляванняў.

У правядзенні і арганізацыі конкурсу дапамагала група кампаній «Кветкі кахання», забяспечыўшы прызы для пераможцаў. Удзел камерцыйных арганізацый у рэалізацыі культурных праектаў — сведчанне развіцця і пашырэння валанцёрскага руху і падтрымкі культуры ў беларускім грамадстве.

**Галіна ВАРОНАВА,**
**вучоны сакратар Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы**

# Не апошні раманс

«Жыццё паўторыцца вераю...», — такую назву атрымаў вечар памяці, прымеркаваны да закрыцця выстаўкі «Рыгор Барадулін. Прыходзім, каб знайсці сябе ў вечнасці...». Мерапрыемства адбылося ў Літаратурным музеі Максіма Багдановіча дзякуючы, у тым ліку, Дзяржаўнаму музею гісторыі беларускай літаратуры. Экспазіцыя, якая доўжылася некалькі месяцаў, змясціла даволі грунтоўную калекцыю фотаздымкаў, перакладаў, дакументаў, звязаных з жыццём і творчасцю народнага паэта Беларусі.

Галоўным героем імпрэзы «Жыццё паўторыцца вераю...» стаў беларускі бард Алесь Камоцкі, які доўгія гады сябраваў з Рыгорам Барадуліным. Вечарператварыўся ў цёплы канцэрт, насычаны ўспамінамі.

Справа ў тым, што на вершы народнага паэта Беларусі Алесь Камоцкі стварыў два альбомы: «Зорка спагады» (1999) і «Псалмы» (2000). Натуральна, што выканаўца, узяўшы гітару, прапанаваў гасцям музея некаторыя з гэтых песень — асабліва тыя, што не гучалі ўжо больш за дзесяць гадоў. Бард засяродзіў увагу на рамантычнай музыцы, але ўсё ж такі пачаў з дзвюх больш сур'ёзных кампазіцый — біблейскіх балад.

«На кожным маім канцэрце прысутнічае лірыка Барадуліна. Разам з ім мы напісалі шмат цудоўных рамансаў. З чаго ўсё пачалося? Падчас адной з сумесных размоў узнікла пытанне: чаму рускі раманс прадстаўлены добра, а пра беларускі мала хто ведае? Мы вырашылі змяніць сітуацыю. Беларусы ж такія шчырыя і душэўныя людзі!» — заўважыў Алесь Камоцкі.

Па словах барда, Рыгор Барадулін прывучыў яго «з павагай ставіцца да кожнага слова, радавацца новым моўным знаходкам, але не шкадаваць перарабляць матэрыял, які не падабаецца».

Алесь Камоцкі ўзгадаў цікавую моўную гульню, якая пэўны час доўжылася паміж ім і паэтам, а потым перарасла ў асобнае выданне. «Барадулін тэлефанаваў і даваў мне фразу, якую трэба было перавярнуць, пакруціць і, нарэшце, зрабіць з яе афарызм», — патлумачыў бард.

Ён распавёў і пра свой удзел у даволі складаным працэсе нараджэння пасмяротнага лірычнага зборніка Рыгора Барадуліна «Сны сасны» — з незвычайным квадратным фарматам, як таго пажадаў паэт, дыскам з запісамі аўтарскага выканання вершаў і фотаздымкамі.

Вечар памяці быў упрыгожаны глыбокім, мяккім і моцным жаночым вакалам барда Алесі Сівохінай, у рэпертуары якой таксама значнае месца займае лірыка Рыгора Барадуліна.

Напрыканцы імпрэзы Алесь Камоцкі падзяліўся ўласнымі творчымі планамі: «На хачу раскрываць усе карты, але хутка выйдзе мая наступная кніга лірычных песень. У ёй можна будзе знайсці прыкладна дваццаць рамансаў, аздобленых здымкамі амерыканскага фотамастака Джона Кунстадтэра, разам з якім мы плённа працавалі».

**Марыя ВОЙЦІК**

# Хараство наміткі

У сталічнай публічнай бібліятэцы № 5 адбылося другое пасяджэнне Клуба творчых жанчын «Спадарыня», створанага пры Мінскім гарадскім аддзяленні Саюза пісьменнікаў Беларусі. Прайшло яно пад назвай «Тры Вольгі»: сябрам клуба была прадстаўлена творчасць паэтэс Вольгі Шпакевіч, Вольгі Нарыняй і Вольгі Сакаловай.

Яны чыталі свае вершы, знаёмілі сяброў па клубе з выдадзенымі кнігамі, адказвалі на пытанні. Вольга Сакалова, аўтар васьмі паэтычных кніг, кіраўнік літаратурнага аб'яднання «Натхненне», нядаўна адзначыла юбілей. Павіншаваў Вольгу Міхайлаўну старшыня МГА СПБ Міхась Пазнякоў. Уручыў і ўзнагароду — медаль «За вялікі ўклад у літаратуру».

Апроч таго, на пасяджэнні клуба творчыя жанчыны вучыліся навіваць намітку. Як гэта рабіць, паказвала дацэнт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў Любоў Сівурава. Між іншым, сапраўдную намітку (а Любоў Пятроўна свае наміткі, якім больш за 100 гадоў, атрымала ў спадчыну ад бабулі і прабабулі) большасць з сяброў клуба пабачылі ўпершыню. Любоў Сівурава распавяла пра сакральную ролю хусткі, фартуха, гарсэта, кашулі і спадніцы ў жыцці беларускай жанчыны. І не толькі распавяла, але і... апранула сучасных кабет у нацыянальныя строі.

Напрыканцы жанчыны-творцы атрымалі прыемны падарунак: чытаў вершы і спяваў паэт-песеннік Кастусь Цыбульскі.

**Тамара БУНТА**

# Вялікая вясна

Вечар-сустрэча «Вясна 45-га года», арганізаваны клубам творчай інтэлігенцыі «Маэстра» на чале з яго кіраўніком, мастацтвазнаўцам Галінай Махаевай, адбыўся напярэдадні святкавання Вялікай Перамогі.

На адной пляцоўцы сустрэліся пісьменнікі, акцёры, мастакі, спевакі. Вечар стаўся адмысловай творчай справаздачай аб праведзеных раней імпрэзах, прымеркаваных да 70-годдзя Вялікай Перамогі. Камернасць і ўтульнасць кавярні Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы «У Уршулі» стварыла святочную атмасферу.

Галоўны спецыяліст МГА СПБ, паэтэса Іна Фралова распавяла пра найбольш важныя і яркія моманты ў жыцці сталічных пісьменнікаў і аддзялення: святочныя вечары, моладзевыя фэсты і творчыя сустрэчы, прэзентацыі новых кніжак, конкурсы мастацкага чытання і юных літаратараў, «круглыя сталы». Узгадала ўрокі мужнасці, якія праходзілі ў мемарыяльнай зале Саюза пісьменнікаў; «пісьменніцкі дэсант», што на працягу красавіка-мая актыўна працаваў са школьнікамі і моладдзю. Шэраг сталічных творцаў выпусцілі кнігі ў серыі «Дзеці вайны» выдавецтва «Чатыры чвэрці»: Ніна Галіноўская, Анатоль Зэкаў, Казімір Камейша, Міхась Пазнякоў, Алесь Савіцкі, Мікола Чарняўскі, Сяргей Трахімёнак.

Пісьменнік Мікола Чарняўскі прадставіў уласныя вершы з кнігі «На плошчы памяці маёй».

Празаік Сяргей Трахімёнак выканаў урывак з «Баллады о месяце апреле» паэта-франтавіка Венядзікта Станцава. Вершам «Салдатка», які прагучаў у арыгінальным аўтарскім выкананні, далучыўся да паплечнікаў Фёдар Баравы. Карціны свайго дзяцінства, праўда, у словах, ярка намаляваў сябра Саюза мастакоў Іван Міско. Супрацоўніца Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Алена Якавенка распавяла пра асобныя напрамкі працы кніжніцы: выстаўкі агітплакатаў, лістовак, газет ваенных гадоў. Музыказнаўца Ала Агаркава прачытала фрагменты з мемуараў Яўгена Весніка, дзе аўтар апісаў гераічныя і камічныя эпізоды свайго франтавога жыцця.

Уражлівымі атрымаліся выступленні народных артыстаў Рэспублікі Беларусь Марыі Захарэвіч, Наталлі Гайды, Наталлі Рудневай і акцёра Дзяржаўнага рускага тэатра, сябра СПБ Андрэя Душачкіна.

**Ганна СТАРАДУБ**

## Барыс АРЛОЎ

***

*Маці ўвечары доіць карову
У святочнай хусціцы сваёй,
І гарласты хор пеўняў вясковых
Адпаведны ствараe настрой.*

*А пасля сырадой разлівае
Па гліняных збанах і гляках.
Кніжкі-накрыўкі
побач трымае,
Каб заўсёды былі на вачах.*

*Можа, раптам радкі прачытае,
Што калісьці прысвечаны ёй...
Вершы чыстыя ўсе —
маці знае,
Не пракісне ад іх сырадой.*

***

*Стаю на беразе.
Палонка ўнізе
Блакітным вокам
сочыць за табой.
І лёгкі дым,
нібыта голуб шызы,
Віецца
над цаглянаю трубой.*

*Там санны след,
шматкі старога сена.
Над імі пара
курыцца ў двары.
Усё навокал
вечна ды імгненна.
Не ведаю,
юнак я ці стары?*

***

*Я не падаў
на калені нізка,
Хоць і жорсткі быў
бязродны век.
Нарадзіўся рускім,
жыў па-руску
І памру —
як рускі чалавек.*

*Сціхне спеў
царкоўны у паветры.
Ляжа крыж
на прах астылы мой...
Я хачу, каб гэтыя два метры
Рускай заставаліся
зямлёй.*

**Пераклад з рускай мовы Паўла САКОВІЧА**

## Алег ЧУПРОЎ

***

*Шукаем часта мы адхлання
У кубку церпкага віна.
Жанчына прагне так кахання,
Як раптам вернецца вясна.*

*Магчыма, лёс яе быў горкі,
Магчыма, хутка пяцьдзясят...
Сумее толькі сэрцам зоркі
Вясновы ў ёй разгледзець сад.*

*І расквітнее смехам звонкім
Заход, ды не — усход яе! —
І яблыкам са стукам тонкім
Ў траву начную упадзе.*

*І да грудзей прыпаўшы вашых,
Шчаслівая, што не адна,
Яна гатова выпіць чашу,
Хай нават горкую, — да дна!*

### Маці

*Пакурыць пайшоў у сенцы,
Адпачыць ад балбатні.
І знянацку сціяла сэрца:
Ёсць жа, ёсць на свеце ты!*

*Не, пра нас ты не забыла,
А забыў пра гэта я:
Недзе там — твая магіла,
Ў хаце, тут — душа твая.*

***

*Іх шмат было ў мяне...
Напэўна — ўсякіх:
Сябе дарылі
без умоў і слёз.
За тое, што мяне
кахалі — дзякуй,
Хай напаткае вас
шчаслівы лёс.*

*Падатлівых і гордых
помніць буду,
Гадоў хоць дваццаць,
сорак праміне.
Каму я верыў да канца,
як цуду, —
Тым шчыра дзякую,
хто здрадзіў мне.*

*А на краю не закрычу:
«Ратуйце!»
І слаць не стану слёзных
тэлеграм.
Хачу пачуць
я «дзякуй» —
не «даруйце»,
Бо некалі кахаў...
і здраджваў сам.*

**Пераклад з рускай мовы Паўла САКОВІЧА**

## Андрэй АНТОНАЎ

### Тры сястры

*Тры сястры — Беларусь,
Украіна, Расія,
Тры сястры нашай слаўнай
магутнай сям'і.
Ва ўсім свеце не бачыў
шчэ гэткай красы я,
Гэткай роднасці душ,
як на нашай зямлі.
Там здзіўляюць святлом
паўнаводныя рэчкі.
Зарапады залоцяць улетку палі!
У вялікай сям'і — ні абразы,
ні спрэчкі,
Так жывуць, як далёкія
продкі жылі.
Засталося адно:
мовіць зычна, нарэшце,
Прыгубіць гэту радасць
ураз і нагбом.
Ад Камчаткі хай чуюць
мяне да Бярэсця:
Раскашуй і квітней ты,
адзіны наш дом!*

**Пераклад з рускай мовы Іны ФРАЛОВАЙ**

## Ігар ГРЫГОР'ЕЎ

### Перад дарогай

*Гані тугу з вачэй.
Наперадзе расстанне,
Ды прабягуць імклівыя гады,
І ўжо бяда трымаць
мяне не стане.
Вярнуся я. Але скажы, куды.*

*А фальш бадзёрых
слоў тут сёння не да месца,
Бо ў іх разгубленасць,
у іх нябачны плач.
Кахай мяне, каб быў
на варце сэрцам.
Вярнуся. Толькі тэрмін
мне прызнач.*

*Не трэба дакараць.
Не хочацца скарыцца.
Завейны шлях мой роўным
не назваць.
Шануй сябе, не вер,
што ты ўдавіца.
Вярнуся. Толькі як цябе пазнаць.*

*Вярнуся. Ды прашу:
выконвай абяцанне,
Калі пайду туды, дзе Вечны бой.
А ў гэту ноч, што поўніцца
расстаннем,
Дай волю сэрцу. Я яшчэ з табой.*

**Пераклад з рускай мовы Аксаны ЯРАШОНАК**

## Глеб ГАРБОЎСКІ

***

*Цяпер я ўведаў, што няма
страшней
За плынь жыцця, за плынь
нястомных дзей.
Яго я выпіў, быццам бы да дна
Салодкага і горкага віна.
Яно ўвабрала і мой першы
ўздых.
І смерць, што ля варот
стаіць маіх.*

*Яно крадзе мяне ў смузе начэй,
Ды раптам пацалункам апячэ.
Па маладосці абвяшчае лёс,
Сатканы з цудаў кветак і нябёс.
А то хваробаў розных
будзе слаць
І змрочным светам
стане назаляць.
І ногі зноў наколе, як асцё.
Няма страшней нічога
за жыццё.
Ды хочацца спытацца: а чаго
Я так салодка верую ў яго?*

### У нас

*Дзе ў жыцці не быў я толькі
і які я бачыў свет,
і ўсяго пабачыў столькі —
і нябёсаў, і планет.*

*Дзе пакутуюць ад болю,
ад вайны і розных крыўд,
дзе, не знаючы патолі,
стогнуць ворагі, сябры.
Бачыў радасць я і беды,
тых, каго адзначыў час,
толькі цікавей не ведаў
за такое, як у нас.*

**Пераклад з рускай мовы Навума ГАЛЬПЯРОВІЧА**

## Яўген ЛУКІН

### Confessione

*О, дайце мне зірнуць
на пышны Рым!*
Канстанцін Бацюшкаў

*Валагодскі сумёт, белы сон,
Снегавіна разгорнутых
сшыткаў...
Я гартаю пустыя лісты,
І так зімна становіцца мне
Ад старонак ссівелай паперы,
Быццам я звар'яцеў і брыду
Па бязмежным заснежаным полі
Або тройкай паштовай імчу:
Залатыя падковы звіняць,
А з-пад іх разлятаюцца коскі,
З вёсак, што разбрыліся вакол,
Патыхае аленевым тлушчам,
Запаліў цыгарэту мужык —
І палаюць на снезе вярблюды,
І гараць піраміды Егіпта,
І за пальмамі мроіцца Рым,
Дзе дурманяць пахучыя зёлкі,
Дзе цімпаны грымяць
несканчона,
Дзе харугвы ў сінечы лунаюць,
Дзе канае сам велічны Тас,
Тэлеграф перадаў у сталіцу
Лебядзінае слова яго:
«Я змагаўся з дрангеймскім
салдатам
І, жалезам акрыліўшы стопы,
Я імкнуўся праз тло і завею
На вярблюдзе да сэрца арабаў,
Ды далёкая руская дзева
Пагарджае Гаральдам суворым,
А мужык у аленевым тлушчы
Прыкурыць не дае мерцвяку!»
Тут мая цыгарэта патухла,
Вецер перагарнуў мне старонку
І засыпаў сінечаю снежнай
І мяне, і мой стол, і дарогу,
Што цішком павярнула дадому,
Каб ніколі не збочваць ужо,
Апынулася, еду назад я,
І звіняць залатыя падковы,
З-пад падкоў
разлятаюцца коскі,
І здалёку крыжы палымнеюць
Валагодскага храма Сафіі.*

### Эсквілінскія птушкі

Да Гарацыя

*Эсквілінскія птушкі крычаць
на суседніх магілах,
Быццам хтосьці
па могілках ходзіць
з падранаю торбай —
Ці то рускія,
ці то яўрэйскія
скарбы згубілі...
Сіні дом над ракою
Сястрою — мой адрас
у гэтай прасторы.*

*За акном абрынаецца сад
і смарагдзяцца цені:
Ці то свету канец,
ці то вольха
сплялася з асінай.
Калі выпіць, Гарацый,
яшчэ па глытку рамане,
То ўгняздзіцца фарэль
на галіне — бач! —
сіняя-сіняя.*

*Па-над думкамі ўзнімецца
поўня, паводку азорыць,
Цібр прынясе мне
пад весніцы хвалі сівыя,
У раённай бальніцы газніца
да рання, бы зорка, —
Там няшчасны Яўген вывучае
прароцтвы Сівілы.*

*Хай Паладыум скралі
і горад чакае спалення,
Ды царэвіч Парыс да канца
застаецца мужчынам:
«Што ж чакае нас, любы?» —
«Чакае, Алена,
Ці то свету канец, ці то
вольхасппляценне з асінай».*

*Паглядзі, канюшына палае,
сітоўнік і шчаўе,
Мой смарагдавы сад —
як трытон, што гарыць
пад вадою.
Над размытай магілай
прачнецца каханак няшчасны:
З неба дзева сыходзіць —
здаецца жывою, святою.*

*Яна ўручыць лінейку яму
залатую і вочы траянца,
Каб правесці мяжу — паміж
горадам гэтым і раем,
Ды штыкетнікі ставяць на
костках, ты ж знаеш, Гарацый,
А свабода каштуе крыві
і ваўчыцай ступае.*

*Гэтай ноччу чаруе вядзьмарка
куманская, Сібіл,
І сусвет памірае, падраўшы
нябёсы на стужкі.
Вось таму над крыжамі,
над зоркай Давідавай сіняй
Эсквілінскія птушкі крычаць,
эсквілінскія птушкі.*

**Пераклад з рускай мовы Таццяны СІВЕЦ**



Фота Кастуся Дробава

## Яўген МАРЦІНОВІЧ

# Мора



1

Апошнім часам мяне пакінулі сны.

Сон... Мая мара і адзінае сапраўднае жаданне, якое пераследуе мяне на працягу апошніх гадоў. Навошта кудысьці бегчы і нечага жадаць, калі можна проста забыцца пад цёплай коўдрай і працягваць бачыць бірузова-аксамітныя сны? І пры гэтым хацець толькі аднаго: каб на цябе забыўся ўвесь белы свет і каб нехта не распужаў тваіх сноў. Толькі і ўсяго! Няўжо я так шмат патрабую ад Сусвету?

Ты хочаш гэтага забыцца, ты прагнеш яго ўсёй душой, каб аднойчы прачнуцца і больш нікуды не ісці, не бачыць і не чуць гэтых звыклых рэчаў і бясконцай мітусні, не прыносіць у ахвяру свой каштоўны час, якога і так адведзена няшмат. Нават па самых аптымістычных прагнозах (100 гадоў!) чалавек жыве да непрыстойнасці мала. Што гэта ў параўнанні... ды з тымі секвоямі, якія могуць пражыць два тысячагоддзі? Таму так не хочацца марнаваць свой час на бясконцую пагоню за бруднымі паперкамі, якія (як жа смешна) ператвараюць цябе ў ГАСПАДАРА ЖЫЦЦЯ! Глупства, адным словам.

І толькі ў снах, толькі ў марах знаходзіш тую выратавальную раўнавагу, якой так не хапала ў паўсядзённым жыцці. Але ты страціў яе, як і мноства іншых важных рэчаў.

***

Мяне пакінулі сны...

У лепшым выпадку я проста аўтаматычна засынаю і так жа аўтаматычна прачынаюся. У горшым — варочаюся без сну на працягу ўсёй ночы і пералічваю авечак са шматтысячных статкаў.

Мой дзень пачынаецца звычайна, як амаль ва ўсіх людзей, каму пашчасціла пачынаць сваю працу з дзевяці раніцы: душ — кава/гарбата — апрананне — крос да аўтобуса-тралейбуса-метро і праца (звычайна з 9.00 да 17.00). Дзень пры дні. Але я не пра тое...

Раней бачыў шмат сноў. Але маімі любімымі былі сны пра мора. Не памятаю, калі я ўпершыню ўбачыў. Напэўна, гадоў у сем, а можа, і раней. Але тады я не бачыў мора ўжывую. Толькі па тэлевізары ці ў кіно.

Ува сне я ўдыхаў водар мора, такі свежы і гаючы, што немагчыма было ім надыхацца. Я ўдыхаў яго салёна-ёдзісты пах і ўсміхаўся. Калі прачынаўся, мне здавалася, што адчуваю на языку прысмак солі. Напэўна, проста здавалася.

Калі я ўпершыню ўбачыў мора, то адразу пазнаў: яно выглядала гэтак жа, як і ў маім сне, і быў зачараваны, як, напэўна, можа быць зачараваным толькі дзіця, што ўпершыню пабачыла цуд. Мора было прыўкраснае ў сваім велічным блакітна-зялёным спакоі. Хвалі нястомна накатвалі на бераг — «бу-у-ух» — і мякка вярталіся назад — «ш-ш-ш»... Яно жыло сваім паўнавартасным жыццём і дазваляла жыць разам з ім.

Я стаў сніць мора яшчэ часцей. І калі мы вярталіся дамоў у Мінск, плакаў, што давялося развітацца. Але бацькі паабяцалі, што праз год мы зноў вернемся сюды. І я чакаў... Я ўмеў чакаць. Гэта было маім шчасцем і выратаваннем.

Але цяпер сны перасталі прыходзіць да мяне. І перад тым як легчы ў ложак, я спецыяльна пераглядаю фотаздымкі са свайго дзяцінства, спрабую выклікаць у памяці ўспаміны, але нічога не атрымліваецца. Я па-ранейшаму не бачу сноў. Магчыма, проста пасталеў.

2

Бессань...

«Я ўжо і не памятаю, з-за чаго мы пачалі спрачацца, адкуль узяліся гэтая злосць і непаразуменне?»

У такія моманты вельмі цяжка вярнуцца назад і паспрабаваць нешта змяніць, прызнаць, што ты не меў рацыі. Але ўсё адбываецца наадварот. Ты думаеш, як яшчэ больш балюча зрабіць роднаму і любімаму чалавеку. Успамінаеш усе крыўды і грахі, нават тыя, якія, здаецца, даўно ўжо забытыя. А прычын, такіх успамінаў і крыўд, пры жаданні можна назбіраць колькі заўгодна.

«Брудны посуд! Ну што гэта за прычына?»

А тут ужо і неістотна. Брудны посуд ці падлога, перапоўненая сметніца ці раскіданыя рэчы — гэта ўжо проста апошнія міліметры фіціля, якія засталіся да выбуху! І гэты выбух здараецца «нечакана». А што было перад гэтым: праблемы на працы, незадаволенасць уласным лёсам, жыццём, надвор'ем... Ды проста хто-небудзь у краме нахаміў ці ў аўтобусе патаптаўся па нагах! Але гэта ўжо нікога не хвалюе. ВЫБУХНУЛА. Аскепачкі склаліся ў патрэбную карціну пад назвай «Крызіс адносін, частка...» (збіліся з ліку, якая там частка).

І калі напружанне ўзрастае для новага выбуху, то лепшае, што можна зрабіць, — выйсці на свежае паветра.

«Удых-выдых... удых-выдых... Удых-выдых... Усё, спыніся! Не бяжы! Не трэба! Успомні, як усё пачыналася. Ды стой ты, не бяжы! Фу-у-у-ух... Спыніся. Успомні сябе «таго» і яе «тую». Няўжо думалі пра такое? Няўжо марылі пра тое, што нейкая драбяза можа выклікаць агідных пачвар у выглядзе істэрык, лаянкі, брудных слоў... Калі б паказалі тым пяшчотным, закаханым рамантыкам (якімі мы некалі былі), што з намі здарыцца праз некалькі гадоў, мы б збеглі на край свету (напрыклад, у Індыю), каб толькі не здарылася такой бяды. Каб толькі не здарылася...»

І ты крочыш. Крочыш без мэты і жаданняў. Проста каб забіць час. Але гэта самападман, вандроўка ў коле. Крок за крокам, крок за крокам. Гэткая імітацыя руху з ніадкуль у нікуды.

«Трэба нешта мяняць... Трэба нешта мяняць. Гэта дакладна».

***

...Мора працягвае сваю нястомную працу... Бясконцыя хвалі накочваюцца на бераг — «бу-у-ух» — і мякка вяртаюцца назад — «ш-ш-ш»... Накочваюцца і вяртаюцца...

***

Яна растварылася ў ім (як соль у вадзе), яго жаданнях, а потым і ў яго праблемах. Што яна магла? Выратавальнае каханне, якое калісьці саграваля іх сэрцы, астыла. А што засталося? А што засталося...

«Ён змяніўся. Як жа ён змяніўся. З кожным днём усё больш і больш...

А што я... Што я магу зрабіць? Ён стаміўся. І я стамілася. Але хоць бы адно ласкавае слова... (усхліп).

Жанчынам патрэбны ласкавыя словы і абдымкі! Як жа ён не разумее!

Мой бедны... Як жа мне не хапае абдымкаў... Не разумее...

Я не хачу яго даймаць. Не хачу ператварацца ў напаўзвар'яцелую слязлівую сцерву, якой ён мяне бачыць. Але што я магу зрабіць, калі ён мяне не бачыць...

Калі мы перасталі чуць адно аднаго? Ніхто не адкажа... Ды ўжо і не патрэбны гэтыя адказы. Гэта проста словы. Проста словы... (усхліп).

І гэтыя недарэчныя сваркі... Як жа ўсё надакучыла... Як жа гэта ўсё дробязна і брудна... Як усё надакучыла!

Мы ператварыліся ў мяхі з цвікамі, якія тырчаць з усіх бакоў і раняць адзін аднаго. Мы нават не спрабуем нешта змяніць у сабе! Мы — мяхі з цвікамі...

Што з намі сталася?

Спыніся. Успомні сябе «тую» і «таго» яго... Няўжо думалі пра такое? У каго мы ператварыліся?

Не... Больш не магу трываць. Нам трэба пагаварыць.

Нам проста... гаварыць...»

3

Званок.

— Пачакай... Нічога не кажы! Я ўзяў два білеты! Два білеты на мора. Разумееш, мы стаміліся... Нам ужо даўно трэба было так зрабіць. Нам трэба ўбачыць мора! Разумееш, мы проста стаміліся ад усяго гэтага тлуму. Ты згодная? Пачакай, не кажы. Дай я скажу першым. Я памятаю цябе. Чуеш?! Я памятаю, якая ты была. І ты застаешся такой жа. Прабач мне. Ты зможаш? А? Пачакай. Я памятаю, якая ты была... Я ўзяў два білеты на мора! Чуеш? Два білеты...

— Вяртайся хутчэй дадому... Я так цябе кахаю. Прабач. Мы як малыя дзеці... Заблукалі ў лесе. Як малыя дзеці...

Больш я нічога не пачуў. Я бег з усіх ног дамоў, і на сэрцы было лёгка. Я спыняўся на некалькі хвілін адпачыць. Бачыў над галавой, высока-высока, зоркі. Я зноў бег. Бег і разумеў, што ўсё будзе добра. Што Сусвет на нашым баку і мы здолеем вытрываць... Мы здолеем.

***

Мора...

Яго хвалі так пяшчотна кранаюць нашы ногі.

Мы схаваліся ад усіх на свеце.

Мы глядзім наперад і бачым, як мора і неба ператвараюцца ў адно цэлае, сціраючы ўсялякія межы. Мы глядзім на гэту прыгажосць, і нашы сэрцы напаўняюцца адчуваннем неверагоднай пяшчоты.

Цяпер не трэба нікуды спяшацца. Наперадзе яшчэ шмат гадоў, якія мы паспрабуем пражыць як належыць... І я не баюся гэтага. Я перастаў баяцца...

Мы перасталі баяцца!

Больш няма часу на гэта.

***

Упершыню за многа гадоў я ўбачыў сон.

# Абразкі

### АБ'ЯВЫ

Амаль усіх людзей прыцягваюць аб'явы. Не, вядома, ёсць тыя, хто заняты больш карыснымі справамі, чым разглядванне аб'яў. Але ў большасці...

Асабліва прыцягвае ўвагу толькі-толькі прыклееная аб'ява. «Ну што там ён (яна) хоча прапанаваць? Можа, душу? Ці «дзіцячыя чаравічкі, няношаныя». Не, усё значна прасцей. Усяго толькі долары за найманне кватэры (ці пакоя) з кароткімі звесткамі пра сябе: «Малады чалавек найме пакой. Без шкодных звычак. Вельмі ціхі і адказны».

Фантазія пачынае працаваць напоўніцу! Хочацца яшчэ дапісаць: «Не маю сабакі, дрэлі, не танчу чачотку, не граю на музычных інструментах. Ціхі і бедны як царкоўная мыш». Ну як такому адмовіць? Без варыянтаў — падыходзіць! А калі сур'ёзна, то хочацца пажадаць гэтаму «маладому чалавеку» толькі самага добрага. Хто яго ведае, можа, і сапраўды вельмі патрэбна...

Наступную аб'яву прычапіла дзяўчына... Пабегла ўжо, не паспеў разгледзець. Што там... А, усяго толькі «бульба з дастаўкай на дом»... Што яшчэ? Адкрыўся новы манікюрны салон ці чарговы ангар-супермаркет (колькі ўжо можна іх ляпаць?!), цырульня для сабак і котак...

Не, чалавеку ж падавай нешта больш цікавае, каб з «разынкай» было. А што там нейкая бульба ці «гіпермаркет»? Проза жыцця. Чалавеку хочацца паэзіі. Ці, на крайні выпадак, нейкай «цікавосткі» з інтрыгуючым сюжэцікам. Калі ёсць час, то можна і знайсці...

Мне аб'явы падабаюцца сваёй лаканічнасцю і шчырасцю. Чалавек выкладвае без усялякіх «эківокаў», што яму трэба, што яго хвалюе, ці прапаноўвае нейкую паслугу. А там ужо твая асабістая справа: хочаш — адказвай, не хочаш — не (навязлівы спам у разлік я не бяру).

Мне падабаецца, што ёсць бескарыслівыя аб'явы. І яны самыя лепшыя. Усё часцей можна сустрэць тэксты кшталту «Аддам у дар», «Аддам у добрыя рукі»... Якая вера ў чалавека! Вера ў тое, што яшчэ ёсць гэтыя добрыя рукі.

Прапаноўваюць самыя розныя рэчы: кнігі, мэблю, музычныя інструменты, нават антыкварныя рэчы! Які ж гэта добры прыклад для астатніх, калі хто-небудзь пачынае дзяліцца па сваёй волі, калі замест патрабавальнага «дай!» — бескарыслівае «бяры».

### РЭФЛЕКСІЯ № 1

Стараюся доўга не трымаць крыўду на людзей, якія непрыемна зачапілі ці абразілі... Усе гэтыя «чамаданы» з дробязнымі крыўдамі трэба павытрасаць дзе-небудзь далёка-далёка ад дому і забыцца на іх як мага хутчэй (каб не марнаваць сваю энергію і час на іх «абсмоктванне»). Але ёсць такія крыўды, якія забываць нельга. Дараваць можна, але забываць — не! Каб зноў не «напароцца»...

### РЭФЛЕКСІЯ № 2

Ёсць звычкі, ад якіх даводзіцца пакутаваць. Я не кажу, што яны дрэнныя ці небяспечныя. Але гэтыя звычкі з'ядаюць шмат часу («звычкі-хранафагі»). Напрыклад, бясконцыя вяртанні дадому, каб праверыць, ці выключаны прас, пліта, камп'ютар, ці зачынена лядоўня ці фортка, а можа, цячэ кран, а можа, забыўся на ключы ці мабільнік (ну як жа без яго пражыць некалькі гадзін?)... і шматшмат-шмат такога, ад чаго можна проста звар'яцець. Нейкі карагод фобій, які бязлітасна жарэ мой час і час маіх родных. Ён высмоктвае ўсе сокі, ператвараючы мяне ў бязвольную, выкінутую на бераг рыбіну. Колькі было перачытана розных Фрэйдаў-Юнгаў-Бёрнсаў-Карнэгі — усё марна. Праблема на некаторы час маскіравалася пад новае хобі ці нейкі «неабходны карысны занятак», які прыносіць радасць усяму навакольнаму свету, толькі не табе.

Самае цікавае, што я разумею і бачу межы гэтай праблемы. І нават маю «стратэгічны» план яе вырашэння. Але... але... Бракуе нейкай касмічнай раўнавагі ў жыцці. А ці была яна? Напэўна, згубілася недзе ў дзяцінстве, калі ўсё жыло ў гармоніі са мною, дзе самае суровае пакаранне было ў выглядзе «кручонага вуха» (гэта, аднак жа, карысна для здароўя). Таму цяпер, калі я гляджу на сваю дачку і бачу яе штодзённую радасць — самую шчырую — і слёзы — самыя чыстыя, — у мяне ёсць толькі адно жаданне: не разбурыць яе ўнутраны — такі пяшчотны і такі багаты — СУСВЕТ...

### ДАЧКА

Дзеля смеху чытаем з жонкай гараскопы з мінулага тыдня (каб праверыць, што здзейснілася). Праглядаем Авена (я), Шалі (жонка). Усё як заўсёды. Пра мяне: «Пасярод тыдня на вашы галовы прасыплецца «манна нябесная», а пры канцы пятніцы без шапкі лепш не выходзіць, а то надзьме ў вуха». Пра жонку: «У Шаляў надзвычай шалёная нядзеля. Усё будзеваліцца з рук. Затое ў сераду лепш за ўсё прымаць гасцей са Шры-Ланкі». Цьмяна неяк... Пры жаданні можна аднесці гэтыя «прадказанні» нават да суседскага тэр'ера. Нічога такога і блізка не было.

Дайшлі да Льва (дачка, 1 год 7 месяцаў): «Пачатак тыдня абяцае вам прыемнасці ў выглядзе нечаканых падарункаў. Усе родныя будуць вадзіць вакол вас карагоды, толькі б дагадзіць. З серады звярніце ўвагу на сваіх падначаленых, ім трэба адпачыць. Але не давайце ім моцна разнявольвацца. А ўвогуле вы прыгажуны і прыгажуні!» Чытаем і смяёмся: вось жа, амаль усё супала!

# Пецярбург у лёсе Янкі Купалы



Янка Купала з сябрамі навукова-літаратурнага гуртка студэнтаў-беларусаў пад кіраўніцтвам Яўгена Хлябцэвіча (злева, унізе). Пецярбург, 1910.

**Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.**

Для маладога беларускага паэта Санкт-Пецярбург стаў горадам вучобы і творчага сталення. Тут убачылі свет яго першыя паэтычныя зборнікі «Жалейка» (1908), «Гусляр» (1910) і «Шляхам жыцця» (1913). І гэта невыпадкова, бо на пачатку XX стагоддзя Санкт-Пецярбург быў адным з вядучых цэнтраў беларускага нацыянальнага адраджэння, тут плённа працавала знакамітая выдавецкая суполка «Загляне сонца і ў наша аконца», якая гуртавала вакол сябе ўсіх, хто быў зацікаўлены ў адраджэнні беларушчыны. Яна і выдала першую кнігу Янкі Купалы. Рэдактарам зборніка стаў адзін з заснавальнікаў суполкі, прафесар Пецярбургскага ўніверсітэта Б. І. Эпімах-Шыпіла. Творчае супрацоўніцтва аўтара і яго рэдактара мела працяг, калі ў лістападзе 1909 года паэт звярнуўся да Браніслава Ігнатавіча з просьбай дапамагчы яму перабрацца ў Пецярбург: «Я ў Вільні доўга не магу трымацца, а так шчыра хацелася б не загінуць і пажыць дзе-небудзь у культурным месцы, каб сябе загартаваць і адшліфаваць на службу беларушчыне і беларускаму грамадзянству».

Пераезд з Вільні, дзе Янка Купала з восені 1908 працаваў у рэдакцыі «Нашай нівы», быў выкліканы жаданнем паэта працягнуць вучобу, сістэматызаваць свае веды, удасканаліць іх. Вацлаў Ластоўскі ўспамінаў: «Было гэта позняй восенню. (...) С. Палуян і Я. Купала, як мы тады казалі, «выбіраліся ўжо ў вырай» — меліся выязджаць з Вільні. Выязджаць, шукаючы залатога руна асветы, каб вярнуцца з часам волатамі ў дзядзіне творчасці». Магчымасць атрымаць сістэматычную адукацыю давалі вячэрнія агульнаадукацыйныя курсы А.Чарняева, што з 1902 года працавалі ў Пецярбургу. У снежні 1909 года Янка Купала прыехаў.

Паэта з нецярпеннем чакала беларускае зямляцтва ў Пецярбургу і найперш беларускае студэнцтва. Язэп Сушынскі, пецярбургскі знаёмы Янкі Купалы згадваў: «Яго сардэчна спаткалі землякі-беларусы. Усім ужо добра быў вядомы яго зборнік «Жалейка». Студэнцкая моладзь ведала на памяць добрую палову вершаў, змешчаных у ім. З запалам дэкламавалі Купалавы вершы на студэнцкіх суботніх вечарынках, на беларускіх канцэртах, а потым ужо і на канцэртах іншых зямляцтваў: літоўцаў, палякаў, украінцаў, латышоў, рускіх, эстонцаў і г. д. Прыехаўшы ў Пецярбург, Купала наведвае сваіх землякоў-рабочых, якіх можна было шмат дзе сустрэць: на Пуцілаўскім, Абухаўскім, Семянікаўскім, Іжорскім чыгуналіцейным, фарфоравым, шкляным, мылаварным заводах, на ткацкай фабрыцы і інш.». Беларуская моладзь, а найперш члены Беларускага навукова-літаратурнага гуртка студэнтаў Санкт-Пецярбургскага ўніверсітэта, сталі найбліжэйшым асяродкам Янкі Купалы падчас яго пецярбургскага жыцця.

Першым пецярбургскім адрасам Янкі Купалы, як сведчыць пашпарт паэта, стаў дом № 1 па 6 лініі Васільеўскага вострава, дзе знаходзіўся, дарэчы, і галоўны склад выдавецкай суполкі «Загляне сонца і ў наша аконца». Але сапраўдным прытулкам паэта стаў дом № 45 па 4 лініі на Васільеўскім востраве — кватэра Б. І. Эпімах-Шыпілы, які стаў для паэта сябрам і апекуном. Сведчанне шчырай удзячнасці Янкі Купалы — вершы-прысвячэнні «Прафесару Б. Эпімах-Шыпілу з Новым 1910 годам» і «Прафесару Б. Эпімах-Шыпілу».

— Гэты дом быў асяродкам беларускага культурнага жыцця, бо тут сустракаліся сябры Беларускага навукова-літаратурнага гуртка студэнтаў Пецярбургскага ўніверсітэта. Сустрэчы, якія найчасцей адбываліся па суботах, называлі суботнікамі. На іх Янка Купала прысутнічаў як паўнапраўны ўдзельнік. «Самыя светлыя ўспаміны засталіся аб гэтых суботніках. Збіраліся сюды ўсе, (...) хто меў тыя ці іншыя адносіны да развіцця беларускай культуры. (...) Усе мы з нецярплівасцю чакалі прыходу Янкі Купалы. (...) Сапраўдным святам і асалодай для нас быў момант, калі ён чытаў нам новыя вершы, якія пазней увайшлі ў зборнік «Шляхам жыцця», — успамінала пра гэтыя сустрэчы Паўліна Мядзёлка.

Патрабавальная і зацікаўленая аўдыторыя спрыяла творчаму развіццю паэта. У Пецярбургу напісаны «Песня сонцу», «Явар і каліна», «Мой дом», «Брату ў чужыне», «Мой край», «Прарок», першы беларускі санет «Жніво», паэма «Курган». Цікава, што сярод вершаў Янкі Купалы няма ніводнага, які быў бы прысвечаны Санкт-Пецярбургу. Цэнтр паэтычнага свету песняра — родная Беларусь, яе людзі, іх лёс. Невыпадкова пецярбургскі верш Янкі Купалы «Я ад вас далёка...» — адно з самых яркіх прызнанняў у любові да роднай зямлі:

*Я ад вас далёка,*
*бацькоўскія гоні,—*
*На чужое неба ўжо*
*гляджу сягоння.*
*Але думкай, сэрцам толькі*
*вас я знаю,*
*Як і жыў, жыву я ў сваім*
*родным краю.*
*І няма на свеце так вялікай меры,*
*І няма на свеце так*
*каваных дзвераў,*
*Каб хоць на часіну ў будні*
*ці ў нядзелі —*
*Беларусь са мною разлучыць*
*пасмелі!*

У Пецярбургу Янка Купала раскрыўся як адораны драматург. Калі ў лютым 1911 года ён — захоплены глядач на беларускай вечарынцы ў клубе «Пальма», што ладзіць першая беларуская тэатральная трупа Ігната Буйніцкага, то ўжо праз год у той жа зале адбудзецца трыумфальная прэм'ера Купалавай «Паўлінкі». Янка Купала клапаціўся не толькі пра пастаноўку ўласных твораў, але і пра лёс беларускага тэатра: разам са зваротам у Драматычную цэнзуру Галоўнага ўпраўлення па справах друку на дазвол пастаноўкі «Паўлінкі» ён афармляе такія ж звароты для пастаноўкі драм Л. Родзевіча «Блуднікі», К. Каганца «Модны шляхцюк», А. Ажэшкі «У зімовы вечар», «Хам».

Пецярбург дазволіў Янку Купалу бліжэй пазнаёміцца з рускім літаратурным светам. Тут пачалося яго сяброўства з паэтам Апалонам Карынфскім, які стаў першым прафесійным перакладчыкам вершаў беларускага песняра на рускую мову. Янка Купала вельмі высока цаніў гэтыя пераклады, нават прапанаваў падрыхтаваць іх асобнае выданне. Дзякуючы А. Карынфскаму ён пазнаёміўся з І. Белавусавым, С. Дрожжыным, У. Неміровічам-Данчанкам. У альбом Марыяны Карынфскай, жонкі Апалона Апалонавіча, рукой Янкі Купалы ўпісаны верш «А ты, сіраціна, жыві...».

Тры з паловай гады, праведзеныя Янкам Купалам у Пецярбургу, былі надзвычай плённымі для яго творчасці, спрыялі паглыбленню ведаў паэта, удасканаленню паэтыкі яго твораў, фарміраванню яго грамадзянскай пазіцыі. Гэты час — адзін з вызначальных перыядаў у лёсе беларускага нацыянальнага генія, неад'емная частка беларускай гісторыі.

**Галіна ВАРОНАВА**

# Маем гонар!

Літаратурна-дакументальная выстаўка «Я буду жыць» адкрылася ў Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы. Экспазіцыя прысвечана 110-годдзю публікацыі верша «Мужык» у мінскай газеце «Северо-Западный край». Гэтая дата традыцыйна лічыцца пачаткам творчай дзейнасці народнага паэта Беларусі.

Арганізатары выстаўкі трапна зазначылі, што менавіта Купала паказаў мужыка «стваральнікам усіх скарбаў жыцця і ў той жа час яго ахвярай». Слова «беларус», дзякуючы паэту, загучала моцна і ўзнёсла, нібы не пра сціплага селяніна, а пра сапраўднага волата, які шмат працуе, але мае гонар! У сваім вершы Купала загаварыў на мове народа, паяднаўся з ім, яго побытам, гісторыяй і характарам.

Лейтматывам выстаўкі сталі аўтабіяграфічныя лісты Янкі Купалы 1928 — 1929 гг. да рускага літаратурнага крытыка Льва Клейнбарта, у якіх паэт шчыра дзеліцца першымі на шляху ў беларускую літаратуру планамі, расказвае пра крыніцы натхнення, свае адносіны да іншых творцаў. «Калі з'явіўся ў 1905 годзе ў друку мой першы верш, я ўжо вызначыўся, што і як мне пісаць», — адзначаў Купала. Прызнаваўся ён і ў сваім захапленні творамі Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Тараса Шаўчэнкі, Францішка Багушэвіча. Лісты — каштоўныя сведкі эпохі: праз светабачанне Купалы ў іх адлюстроўваецца настрой усяго XX стагоддзя з яго адраджэнскім рухам. У цэнтры музейнай залы размясцілася сімвалічнае дрэва паэзіі, замест ствала якога — каліграфічна выведзены верш «Мужык». Рукапіс гэтага твора і яго першая публікацыя беражліва захоўваюцца ў фондах Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы. Дырэктар Алена Ляшковіч, вітаючы гасцей, паведаміла: «У гэтай выстаўцы мы адлюстравалі значэнне, якое верш «Мужык» меў як для ўсёй гісторыі беларускай літаратуры, так і для самога паэта».

Сярод іншых адметных экспанатаў — аўтарскія карыкатуры да першага і другога выданняў зборніка «Шляхам жыцця» (1913 і 1923), іншыя кнігі з творамі Купалы розных гадоў, у тым ліку перакладзеныя на мовы свету, любімыя паэтам беларускія выданні, што паўплывалі на станаўленне яго таленту, творы аўтараў газеты «Наша ніва» і выдавецкай суполкі «Загляне сонца і ў наша аконца».

Беларускі філолаг і літаратуразнаўца Вячаслаў Рагойша павіншаваў прысутных з адкрыццём экспазіцыі і падкрэсліў: «Першая публікацыя ці выступ паэта перад шырокай аўдыторыяй — заўсёды знакавая падзея. Дарэчы, газета «Северо-Западный край», у якой надрукавалі верш Купалы, была на свой час вельмі прагрэсіўнай, дэмакратычнай і нават рэвалюцыйнай». Літаратуразнаўца нагадаў таксама пра ролю ў жыцці Купалы публіцыста і крытыка Уладзіміра Самойлы, дзякуючы якому і з'явілася дэбютная публікацыя.




*Дарчы надпіс на кнізе, падараваны музею: «В музей имени Янки Купалы. Эта книга приобретена мною в самые тяжёлые дни блокады Ленинграда. — 1943 г. С ней я не расставался до окончания Отечественной войны. Её читали не только белорусы, но и русские, украинцы, армяне — восхищаясь нашим великим песняром. Доцент Военно-медицинской академии им. Кирова полковник С. Шпиленя. Х. 1962».*

«Менавіта з твора «Мужык», па сутнасці, і пачынаецца Янка Купала як нацыянальны паэт, які адкрыў для сябе магчымасці беларускай мовы, бо дагэтуль ён пісаў па-польску. У імгненне майстар зразумеў, што можа выявіць сябе, загучаць па-сапраўднаму, толькі ў родным слове», — дадаў Вячаслаў Рагойша.

Паэт Навум Гальпяровіч, у сваю чаргу, зазначыў: «Мы ведаем Купалу як інтэлігента, сына шляхцічаў, а ў вершы «Мужык» ён звяртаецца да простага народа з заклікам: Памятайце, людзі, што мы народ, не горшы за іншых!». У яго найменні «мужык» прагучала прыхаванае, але гордае «чалавек». І беларусы адчулі, што ў іх ёсць свая мова. У гэтым сіла верша.

Акрамя літаратуры і дакументаў, на выстаўцы прадстаўлена шмат мастацкіх работ: партрэты Янкі Купалы і кампазіцыі па матывах твораў. Сярод іх — і карціны мастака Эдуарда Агуновіча, аўтара многіх музейных экспазіцый. Паводле яго слоў, «беларуская культура, якая была зламана амаль пад корань не адзін раз, здолела адраджацца — і Янка Купала, яго твор пра мужыка, быў тым самым парасткам, што даў ёй новае жыццё».

Верш «Мужык» падчас адкрыцця выстаўкі прагучаў на пяці мовах свету: беларускай, рускай, англійскай, іспанскай і ўкраінскай. Незабыўным стала класічнае выкананне твора народным артыстам СССР і Беларусі Генадзем Аўсяннікавым. Мерапрыемства завяршылася прэзентацыяй гімна Купалавага дома, які напісаў паэт Навум Гальпяровіч у суаўтарстве з бардам Алесем Камоцкім. Спявалі ўсе!

Выстаўка падрыхтавана з удзелам Беларускага дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і побыту, Літаратурнага музея Максіма Багдановіча.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Ён прыдумаў імя для Паэта



Браніслаў Эпімах-Шыпіла.

Не ўсе ведаюць, што свае першыя творы аўтар знакамітага верша «А хто там ідзе?..» падпісваў не псеўданімам Янка Купала. Праўда, Купалам Іван Дамінікавіч Луцэвіч стаў хутка (дарэчы, у яго былі і іншыя псеўданімы: Марка Бяздольны, Купальскі Я., Янук з-пад Мінска ды іншыя), а вось імя Янка ўзяў не адразу. Паэўны час яму больш блізкім быў Янук. Янук Купала значылася і на рукапісе першай кнігі паэта, прапанаваным выдавецкай суполцы «Загляне сонца і ў наша ваконца!».

Адкуль жа ў такім разе з'явілася звыклае ўсім Янка Купала? Аказваецца, па звычайным недаглядзе. Тлумачэнне гэтаму можна знайсці ў адным з лістоў Браніслава Эпімах-Шыпілы, дасланага ў свой час вядомаму крытыку і літаратуразнаўцу, між іншым, першаму бібліёграфу Я. Купалы, ураджэнцу Капыля Льву Клейнбарту: «Перапісваючыся спачатку з Самойлам, я не ведаў сапраўднага імя паэта. Толькі калі ў працэсе друкавання трэба было зносіцца з самім аўтарам ці то з прычыны франтыспісу да гэтага зборніка, зробленага па майму ўказанню калегам маім мастаком Якубоўскім, ці па іншых пытаннях, было мне паведамлена сапраўднае імя і месца жыхарства паэта. У франтыспісе да загалоўнага ліста я міжволі зрабіў памылку, напісаўшы замест «Жалейка Янука Купалы», як аўтар заўсёды і ўсюды называў сябе і падпісваўся, — «Жалейка Янкі Купалы». Такім чынам, не наўмысна перайменаваў Янука ў Янку, гэту форму імя прыняў пасля і сам паэт і якая так і засталася за ім да гэтага часу, не Янук, а Янка Купала».

Ад памылак, як вядома, ніхто не застрахаваны. Аднак звычайна даюць папраўкі, просяць у аўтара прабачэння, а ў далейшым прытрымліваюцца першапачатковай, правільнай формы. Чаму ж Іван Дамінікавіч успрыняў усё спакойна і згадзіўся раз і назаўсёды з Янука ператварыцца ў Янку? Можна меркаваць, што новае імя падалося маладому паэту больш мілагучным. Але хіба Янук — горш? Ці ўсё ж былі нейкія іншыя, больш важныя прычыны, якія дазволілі Я. Купалу з павагай ставіцца да Б. Эпімах-Шыпілы, а ягоную памылку ўспрыняць як нешта само сабой зразумелае? Бадай, усё ж прычына адна: душа сапраўднага беларуса памкнулася да душы сапраўднага беларуса, а зблізіў Я. Купалу і Б. Эпімах-Шыпілу Пецярбург.

Нарадзіўся Б. Эпімах-Шыпіла 4 верасня (па старым стылі) 1859 года ў фальварку Будзькаўшчына на Лепельшчыне. Пасля заканчэння гімназіі паступіў на аддзяленне класічных моў гісторыка-філалагічнага факультэта Пецярбургскага ўніверсітэта. Выбар быў усвядомлены: дасканала авалодаў больш чым дваццаццю мовамі! Нездарма пасля завяршэння вучобы стаў чытаць курс грэчаскай мовы ў духоўнай акадэміі, а пазней быў яе настаўнікам у мужчынскай гімназіі, лектарам лацінскай мовы на агульнаадукацыйных курсах А. Чарняева. На тых самых, на якія пазней паступіць і Іван Луцэвіч.

Шмат гадоў Б. Эпімах-Шыпіла лічыўся «памочнікам бібліятэкара» Пецярбургскай Імператарскай бібліятэкі, а па сутнасці з'яўляўся неафіцыйным дырэктарам яе. Справа ў тым, што на законных падставах ён не мог заняць гэтую пасаду з-за свайго веравызнання: на той час каталікам быць дырэктарам бібліятэкі, прытым Імператарскай, забаранялася. Праца ў бібліятэцы і самому шмат давала — заўсёды знаходзіліся пад рукой неабходныя кнігі, можна было знайсці рэдкія публікацыі ў перыёдыцы. Ахвотна дапамагаў і студэнтам. Калі патрэбнага выдання ў фондах не было, дастаўляў яго з іншых бібліятэк — і з публічнай, і з бібліятэкі Акадэміі навук, прынósіў кнігі, што набываў сам. Дый вырашыў заняцца выдавецкай дзейнасцю.

Суполка «Загляне сонца і ў наша ваконца!» заснавана 5 мая 1906 года. Першынцам яе стаў «Беларускі лемантар, або Першая навука чытання». На вокладцы былі адзначаны і задачы суполкі: «Таварыства ўстанаўляецца для таго, каб друкаваць і шырыць паміж людзьмі кніжкі беларускія і ўсё, што датычыць Беларусі».

4-ая Лінія, дом 45, кватэра 16... Гэты адрас у Пецярбургу ўжо ведалі многія. Цяпер жа Б. Эпімах-Шыпіла ў сябе дома размясціў кантору выдавецтва. Працавалі з зайздроснай апетытам і апантанасцю. У канцы 1906 года пабачыла свет другая кніжка — «Першае чытанне для дзетак беларусаў», напісаная Цёткай. Цётка перад гэтым звярталася да Б. Эпімаха-Шыпілы: «Я хачу даведацца ад Вас, што чутно з букваром, ці ўжо гатоў, ці ў нас будзе фанетыка нашая беларуская. Гэта вельмі важна, бо буду цяпер выдаваць папулярныя рэчы для народа, ды не ведаю, як чаго трымацца». Б. Эпімах-Шыпіла, у сваю чаргу, шукаў аднадумцаў. Напярэдадзе было знаёмства і сяброўства з Янкам Купалам, Цішкам Гартным, Браніславам Тарашкевічам ды іншымі.

Сяброўства па духу, канечне, шмат значыць. Але яго неабходна заваяваць. Б. Эпімах-Шыпіла ведаў, што арыентавацца трэба на моладзь. Яшчэ ж у 1902 годзе ў Пецярбургу ўзнік так званы «Круг беларускай народнай прасветы і культуры». З ягонымі сябрамі і наладзіў сувязь. Неўзабаве суполку вітаў Я. Купала. Гэтае вітанне для Б. Эпімаха-Шыпілы і яго аднадумцаў шмат значыла, бо спачатку Іван Дамінікавіч, не задаволены тым, што выдаўцы ў першыя месяцы сваёй работы абмяжоўваліся толькі выпускам лемантароў, выступіў з эпіграмай. А тут такое шчырае вітанне!




*Гэй, дзівы над дзівы,*
*мкне гоман грамлівы!*
*Глядзіце, ўстае беларускі народ;*
*Айчызну будуе на борах,*
*на нівах.*
*Што гэта? — то йдзі,*
*то праўды прыход.*

У суполцы гэтаму вітанню вельмі ўзрадаваліся. Як прыгадваў Б. Эпімах-Шыпіла ў адным з лістоў да Л. Клейнбарта (захоўваецца ў фондзе Л. Клейнбарта ў архіве Інстытута рускай літаратуры ў Санкт-Пецярбургу), «заўважыўшы незвычайны талент у прысланым вершаваным вершы, які мы чыталі, сабраўшыся вечарам з вялікім задавальненнем, суполка папрасіла Самойлу прыслаць ёй вершы Купалы, што той і зрабіў...» З гэтых твораў і нарадзіўся зборнік «Жалейка», які выйшаў у 1908 годзе. Акрамя 98 вершаў, як вядома, у яго былі ўключаны некаторыя пераклады. Так і прыйшоў у літаратуру Янка Купала. Дарэчы, народны пясняр напісаў вершы «Прафесару Б. Эпімах-Шыпілу з новым 1910 годам» і «Прафесару Б. Эпімах-Шыпілу», а таксама прысвяціў яму легенду «Паляўнічы і пара галубкоў».

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

# Неўскія адрасы

Чытачы, якія цікавяцца беларусістыкай, добра ведаюць Мікалая Нікалаева. Ён нарадзіўся ў Шчучыне, частку дзяцінства правёў у Навагрудку. Хаця і працуе даследчык у Санкт-Пецярбургу, плён яго працы часта перш-наперш знаходзіць месца для публікацыі ў беларускіх выданнях. Значнай з'явай у свой час стала кніга М. Нікалаева «Палата кнігапісная» (Мінск, 1993). Асноўнае месца працы вучонага — Расійская бібліятэка імя М. Е. Салтыкова-Шчадрына. М. Нікалаеў абараніў кандыдацкую дысертацыю па тэме «Славянская рукапісная кніга на беларускіх землях у XVI — XVIII стагоддзях», у 1997 годзе — доктарскую дысертацыю «Кніжная культура Вялікага Княства Літоўскага».

У 2009 годзе ў Санкт-Пецярбургу пабачыла свет новая работа Мікалая Нікалаева — «Беларускі Пецярбург». Унікальная праца, у якой даследчык падсумаваў росшукі ўсемагчымай інфармацыі пра беларусаў і ўраджэнцаў Беларусі ў стасунках з гісторыяй, біяграфіяй горада на Няве, настолькі ўражвае сваімі маштабамі, што здаецца, быццам над кнігай у 67 друкаваных аркушаў (а гэта 536 старонак вялікага фармату!) працаваў цэлы інстытут.

Унікальная манаграфія раскрывае ўвесь «беларускі характар» Пецярбурга. Перад вачыма чытача праходзяць сотні, тысячы асоб, шматаблічныя падзеі і эпізоды. У прадмове да кнігі Мікалай Нікалаеў тлумачыць, чым кіраваўся, рыхтуючы дасследаванне: «Горад гэты не вывучаюць у курсе геаграфіі і гісторыі Беларусі: цяперашнія падручнікі пабудаваны па дзяржаўна-тэрытарыяльным прынцыпе, а наш аб'ект знаходзіцца за межамі беларускай этнічнай тэрыторыі. Санкт-Пецярбург. Вялікі горад, які доўгі час быў сталіцай той дзяржавы, куды ўваходзіў беларускі край, застаецца і сёння адным з важных цэнтраў беларускай культуры. Ведаць больш пра Пецярбург — значыць лепш ведаць Беларусь. Без Пецярбурга нельга асэнсаваць феномен беларускай культуры XVIII — XX стагоддзяў, культуры дыяспары, якая назапасіла параўнальны, калі не большы, за метраполію патэнцыял. Пецярбург стаў на доўгі час месцам кантакту беларусаў з фінамі, немцамі, іншымі еўрапейскімі і азіяцкімі народамі. А магчымасці кантактаў з рускай культурай тут былі найбольшыя...».




З першых старонак «Беларускага Пецярбурга» неўпрыкмет паддаешся таму эмацыянальнаму, гісторыка-духоўнаму кантэксту, які стварае аўтар даследавання. Сапраўды, старонка за старонкай паказваюць, прадстаўляюць беларускае жыццё ў slavутым горадзе, у паўночнай сталіцы Расіі. М. Нікалаеў прытрымліваецца храналагічнага прынцыпу, і разам з тым кожны раздзел кнігі прысвечаны асобнай тэме. Паказваючы асаблівасці побыту ў горадзе, яго архітэктуру, удзел знакамітых нашых продкаў у грамадскім, палітычным, эканамічным жыцці горада на Няве, даследчык асабліва ўважлівы да літаратурнай гісторыі Санкт-Пецярбурга. Са старонак раздзела «Горад літаратараў, мастакоў, навукоўцаў» расказвае пра такіх яркіх асоб, як Восіп Сянкоўскі (першы прафесар усходніх моў у Санкт-Пецярбургскім універсітэце, аўтар кнігі «Некалькі заўваг пра апошнюю польскую рэвалюцыю», нарадзіўся ў Ваўкавыскім павеце ў 1800 годзе), пісьменнік і выдавец Фадзей Булгарын (нарадзіўся ў 1789 годзе ў маёнтку Пырашава на Уздзеншчыне). З Санкт-Пецярбургам звязана прафесійнае станаўленне літаратараў Яна Баршчэўскага (у 1840 — 1844 гг. выдаваў альманах «Незабудка»), Іасафата Агрызкі (выдаваў у Пецярбургу польскамоўную газету «Слова»), Уладзіміра Кігн-Дзядлова, Мікалая Мінскага, Льва Клейнбарта (аўтар кнігі «Маладая Беларусь», якая стала першай грунтоўнай савецкай працай па беларускім літаратуразнаўстве), Міхаіла Сямеўскага (ураджэнец Полацка, заснавальнік часопіс «Русская старина»), Паўла Шпілеўскага (ведаючы яго як ці не першага краязнаўчага публіцыста Беларусі, мы рэдка ўзгадваем, што ён зрабіў і першую ў гісторыі спробу стварэння слоўніка і граматыкі беларускай мовы — «Слоўнік і каранясло́ў беларускай гаворкі», 1845 год), фалькларысткі Зінаіды Радчанкі... Безліч імёнаў! Многія старонкі кнігі Мікалая Нікалаева — унікальная падказка, якім шляхам, у які бок ісці даследчыкам-наступнікам.

А літаратурна-мастацкая памяць бліжэйшых да нас дзесяцігоддзяў... І гэтым фактам, адрасам знайшлося месца на старонках кнігі М. Нікалаева. Адзін з апошніх раздзелаў так і называецца: «Творчая інтэлігенцыя». М. Нікалаеў расказвае пра пісьменнікаў, публіцыстаў, журналістаў Барыса Ігнатовіча (нарадзіўся ў Слуцку, працаваў у рэдакцыях часопісаў «Дрезина», «Смехач», «Бузотёр»), драматурга Аляксандра Ліўшыца (больш вядомага пад псеўданімам Аляксандр Валодзін), жонку Максіма Гарэцкага — Леанілу Чарняўскую, Анатоля Кірвеля (пісьменнік і мастак, аўтар кніг «Човен Харона», «Урбанія», «Формула замежжа», выдавец газеты «Родзічы»), паэтэсы Аўгінні Каваляк, празаіка Івана Сабілы (некаторы час — старшыня Санкт-Пецярбургскага аддзялення Саюза пісьменнікаў Расіі, выдаваў газету «Литературный Петербург»), пісьменніка, вайсковага журналіста Аркадзя Пінчука (дарэчы, у Саюз пісьменнікаў ён уступіў напрыканцы 1960-х гг. у Беларусі і першую кнігу апавяданняў выдаў па-беларуску), галоўнага рэдактара газеты «На страже» Сяргея Мартынкевіча...

Пецярбургскія адрасы, звязаныя з Беларуссю, робяць кнігу М. Нікалаева яшчэ і своеасаблівым гідам па горадзе на Няве. Пры вывучэнні яго беларускай гісторыі без кнігі нашага земляка з Гродзеншчыны даследчыку ніяк не абысціся.

**Сяргей ШЫЧКО**



Выступае Тэатр танца [ОТРАЖЕНИЯ].

# Колас, Францыя і тэатр ценяў

**Спытаеце, як гэта ўзаемазвязана? Калі б у Ноч музеяў вы наведалі гасцінны Дом Коласа, пытання не ўзнікла б. Супрацоўнікі падрыхтавалі для гасцей святочную праграму «Святло ў акне», а ў яе межах — шмат цікавостак: ажыўшую экспазіцыю, фэст вулічных тэатраў... Але — пра ўсё па парадку!**



Фота Наталі Купрэвіч

Вершы Якуба Коласа чытае заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь Валянцін Салаўёў.

Экскурс у вытокі стварэння музея і ў жыццяпіс Песняра гасцям Ночы музеяў дапамагла здзейсніць вядучы навуковы супрацоўнік музея Ірына Казловіч. Яна пазнаёміла з гісторыяй Коласавага Дома, з заламі, адна з якіх прысвечана паэме «Новая зямля» ды ілюструе дзіцячыя і юнацкія гады жыцця паэта, другая — паэме «Сымон-музыка».

Каларыт творчага свету Песняра дапамаглі раскрыць героі яго трылогіі «На ростанях» — настаўнік Андрэй Лабановіч і панна Ядвіся, а таксама хлопчык са скрыпкай Сымонка, галоўны герой паэмы «Сымон-музыка». Вершы Якуба Коласа, у прыватнасці са зборніка «Голас зямлі» (1943), госці пачулі таксама ў выкананні заслужанага артыста Рэспублікі Беларусь Валянціна Салаўёва. Тут жа можна было навучыцца складаць салдацкія лісты-трохкутнікі, пабачыць выстаўку «Дарогамі вайны Якуба Коласа».

Пабывалі госці і ў самым «сэрцы» музея, самай старой частцы будынка — рабочым кабінеце Якуба Коласа. Тут захаваўся той самы парадак, што быў пры жыцці гаспадара, нават календары адгорнуты на 13 жніўня 1956 года: менавіта ў гэты дзень і ў гэтым пакоі, за рабочым сталом, спынілася сэрца Песняра. Ірына Казловіч прадэманстравала «гукавое аблічча» апошніх хвілін яго жыцця: радыё, крокі, скрып пяра, бег стрэлак гадзінніка, які раптам абрываецца...

Падчас выстаўкі «Гісторыя аднаго экспаната», што доўжылася гадзіну, можна было пабачыць томікі кішэннага фармату ў сярэбраным аздабленні, куды ўвайшлі выбраныя творы Якуба Коласа і Янкі Купалы. Таксама на працягу толькі адной гадзіны кожны мог запісаць пяром самога Коласа сваё запаветнае жаданне і зрабіць бясплатны імгненны фотаздымак у Instagram ад рэкламна-забаўляльнага праекта NETgram. Ладзіліся ў музеі і майстар-класы па вырабе паштовак у тэхніцы квілінгу, лотацыў з паперы, экспрэс-урокі ігры на аўтарскіх музычных інструментах.

Наведвальнікаў уразіў канцэрт класічнай музыкі «Шэдэўры еўрапейскага барока» ў выкананні музыкантаў Дзмітрыя Зубава (фартэпіяна), Аляксея Афанасьева (віяланчэль) і Галіны Мацюковай (флейта-траверса).

«Мы расчынім вам дзверы гасцінна // І сустрэнем, як родных сваіх...» — гэтымі словамі Песняра прывітала гасцей свята дырэктар Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа, заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь Зінаіда Камароўская. Літаратурную кампазіцыю, прымеркаваную да 90-годдзя Коласавай паэмы «Сымон-музыка», на пляцоўцы пад адкрытым небам выканаў Валянцін Салаўёў. Перад публікай выступілі ўзорны духавы аркестр «Фанфары нямігі», юныя навучэнцы школы танцаў «Smart dance» і тэатральнай подыум-школы «Зоркі "Вясёлкі"». Тут быў зладжаны і фэст вулічных тэатраў, дзе свае творчыя набыткі прадэманстравалі Тэатр танца [ОТРАЖЕНИЯ], калектывы «Гістрыён», «Тэатр на гары» і студыя этнічнай пластыкі марыі Юрынай «KETRI». А ў гасцёўні Дома Коласа наведвальнікаў віталі маладыя акцёры з Францыі і Канады — сябры Міжнароднага грамадскага аб'яднання «Театро», трупа прыватнага тэатра лялек, святла і ценю «Дом Солнца» ды ўдзельнікі музычнага гурта «Сундук».

**Яна ЯВІЧ**

# Храм багіні Гесіхіі

**Акцыя «Ноч музеяў» штогод праходзіць у гонар Міжнароднага дня музеяў — 18 мая. Ахутаныя арэолам рамантыкі і таямніцы, тысячы музеяў не спяць, вітаючы сваіх наведвальнікаў.**

Нацыянальны мастацкі музей Беларусі гэтым разам стаў храмам багіні Гесіхіі (цішыні), дзе можна было застацца сам-насам з сабою. Цішыня не азначае маўчанне, бо дазваляе пачуць усё больш выразна.

Наведвальнікаў музея чакалі выступленні Дзіцячага тэатра «Радасць», струннага квартэта «Tango Box», музычнага дуэта «Танга Чэшырскага ката», паказ кароткаметражных нямых фільмаў пачатку XX стагоддзя з фондаў Музея гісторыі беларускага кіно. Экспазіцыйныя залы рускага мастацтва ператварыліся ў «Пакой, поўны цішыні». Спецыяльны праект флуарэсцэнтнага і псіхадэлічнага мастацтва маладых дызайнераў Аляксея Барысевіча і Кацярыны Цыплянковай сумесна з мастаком Кацярынай Лісіцынай стварыў гасцям музея казачную атмасферу, якая дазволіла адысці ад штодзённасці жыцця.

На інтэрактыўнай пляцоўцы «Анатомія пачуццяў» лепшыя эксперты навучылі разумець тактыльнасць на мове племя зулусаў, распазнаваць смак кактуса, адчуваць водар падарожжаў. А ў месцы пад назвай «Як выглядае цішыня?» стваралі жывыя карціны з дапамогай першасных геаметрычных фігур у духу авангардных кірункаў — супрэматызму і канструктывізму. Акрамя таго, упершыню ў гісторыі акцыі «Ноч музеяў» ажылі карціны! Праект *Pixel Art* грунтуецца на стварэнні светлавых канструкцый у цемры, якія пасля застаюцца толькі на фотаздымках.

Такім чынам, інтэрактыўнай прасторай падчас Міжнароднай акцыі «Ноч музеяў-2015» Ціхая «ноч» быў увесь Нацыянальны мастацкі музей. Тых, хто не баяўся выпрабаванняў і зазірнуў пад маўклівыя заслоны таямніцы, чакала сустрэча яшчэ і з Князем цішыні. Ён прапанаваў наведвальнікам акцыі спазнаць сваё царства ў мностве яго праяў — ад велічнай нерухомасці жывапіснага палатна, матэрыяльнасці жэсту да эфемернасці ціхай мелодыі. Гасцей, якія прайшлі ўсе выпрабаванні, чакалі падарункі.

**Таццяна ШЧЭРБА**



Фота БелТА

Інтэрактыўная прастора «У кожнага свая цішыня».

# Турнэ па планеце

«Вакол света за адну ноч» — пад такой інтрыгуючай назвай сустрэлі міжнародную акцыю «Ноч музеяў» наведвальнікі Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы. На тэрыторыі парку, ля сцен дома паэта, разгарнулася імправізаванае карнавальнае шэсце. Кожны з гледачоў меў магчымасць пазнаёміцца з танцавальнай і песеннай культурай 15 краін свету, з якімі быў звязаны Янка Купала.

Распачаў імпрэзу ўкраінскі фальклорны ансамбль «Ватра». Артысты ўразілі касцюмамі ў нацыянальным каларыце. Тэатр танца «Рэнесанс данс» і вакальная студыя «Фолкмадэрн» з Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта ўвасобілі на сцэне непаўторнасць культуры Кітая, Ізраіля і ЗША.

Дзякуючы танцавальнаму калектыву «Сонечная Грузія», мінчане і госці сталіцы перанесліся ў край вечнай вясны. Трапілі ў Славакію з выступленнем вакальнага ансамбля «Старое сяло», апынуліся таксама ў Арменіі, Літве і Татарстане.

На гэтым падарожжа па свеце не скончылася. Прадоўжылі святочную праграму творчыя калектывы «Сопна» з Індыі, «RIO» з Бразіліі ды іншыя. Польшчу прадставілі лаўрэаты рэспубліканскіх і міжнародных конкурсаў Надзея Бронская і Сяргей Міклашэўскі.

Завяршылася ноч музеяў у Купалавым доме канцэртам беларускіх музычных гуртоў: «HURMA», «Lebonik», «Знарок». Свята доўжылася да самай поўначы. Працаваў кірмаш, дзе можна было набыць цікавую рэч, нават ручнога вырабу — пярсцёнкі, завушніцы, цацкі, пачаставацца гарачай кавай і салодкімі прысмакамі. Парадавала не толькі насычаная праграма, але і сімвалічны кошт уваходнага білета.

**Марыя ВОЙЦІК**



Культура танца і музыкі Кітая.

# Помнік з 23 цаглін

Вялікая шафа навукова каментаваных Збораў твораў класікаў айчыннай літаратуры не так даўно папоўнілася новым акадэмічным выданнем. Завяршылася рэалізацыя праекта па падрыхтоўцы Збору твораў Івана Шамякіна ў 23 тамах. Ім апекаваўся вялікі творчы калектыў у складзе супрацоўнікаў Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі, Белдзяржуніверсітэта і Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. Куляшова. Кіраўнік праекта — кандыдат філалагічных навук Тэрэса Голуб. Усе 23 тамы Збору твораў народнага пісьменніка пабачылі свет у выдавецтве «Мастацкая літаратура». Прэзентацыя гэтага адметнага праекта прайшла ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа НАН Беларусі.

Падчас падрыхтоўкі Збору твораў сціплыя беларускія тэкстолагі зрабілі вялікую працу. Патрэбна было падрыхтаваць каментарыі і прадмовы да кожнага тома, выявіць апошнюю волю аўтара, а для таго, каб пазбегнуць розначытанняў у тэкстах, асобныя моманты звяраліся нават да двух дзясяткаў разоў! Таму і нядзіўна, што на імпрэзу па прадстаўленні такога значнага праекта завіталі прадстаўнікі кіраўніцтва Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, а ўдзельнікі творчага калектыву атрымалі граматы і падзякі.




23 тамы Збору твораў народнага пісьменніка Беларусі Івана Шамякіна.

Так, кіраўнік апарату НАН акадэмік Пётр Віцязь падкрэсліў:

— Іван Шамякін прайшоў шляхамі вайны. Менавіта падчас Вялікай Айчыннай ён вырас як чалавек і пісьменнік. У яго творах мы бачым, наколькі разнабаковым, гуманным, даступным чалавекам ён быў, заўсёды спрабаваў зразумець суразмоўцу і дапамагчы яму. Напэўна, свае раманы Іван Пятровіч прысвячаў перадусім простым людзям. Думаецца, выпуск Збору твораў народнага пісьменніка надзвычай важны — дзеля захавання яго спадчыны для наступных пакаленняў. Нам трэба паклапаціцца пра тое, каб Шамякіна чыталі і вывучалі ў будучыні.

У тым, што Збор твораў Івана Шамякіна — не толькі выдатны дапаможнік для навукоўцаў, але і адметны помнік кніжнай культуры нашага часу, упэўнены дырэктар Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі, доктар гісторыі, доктар архітэктуры Аляксандр Лакотка. Ён падкрэсліў:

— Менавіта з такіх цаглін ствараецца архітэктура нашай культурнай спадчыны. Думаецца, сумленнасць Івана Пятровіча будзе добрым прыкладам для наступных пакаленняў. Я меў гонар супрацоўнічаць з ім і памятаю, што ў любых абставінах Шамякін сур'ёзна і адказна ставіўся да працы.

Падчас вечарыны гучалі і больш асабістыя ўспаміны пра пісьменніка. Так, акадэмік НАН Беларусі Уладзімір Гніламёдаў распавёў, што Іван Шамякін быў паранены ў правую руку, таму доўгі час мог пісаць толькі дзвюма рукамі: правай трымаў асадку, а левай дапамагаў. Пісаў у асноўным ноччу, таму сябры і калегі ведалі, што Івану Пятровічу днём лепш не тэлефанаваць, каб не патрывожыць яго сон пасля цяжкой працы над чарговым творам. У ліку адметных рыс творчасці Шамякіна Уладзімір Васільевіч падкрэсліў яго назіральнасць, уменне распавядаць пра сучаснасць, аналізаваць, заўважаць навізну.

Над падрыхтоўкай Збору твраў Івана Шамякіна ў 23 тамах працавалі дочкі пісьменніка — доктар філалагічных навук Таццяна Шамякіна і кандыдат філалагічных навук Алеся Шамякіна. Таццяна Іванаўна падкрэсліла:

— Наш тата быў вельмі сумленным чалавекам. Ён заўсёды заставаўся верны ваеннаму братэрству, быў вельмі праўдзівы. Яго часам называюць пісьменнікам дзвюх эпох. І гэта сапраўды так. Бо ў сваіх раманах тата паказаў і савецкі час, і ліхія 1990-я. Разам з тым ён усё жыццё заставаўся верным ідэалам маленства, юнацтва. Што да літаратуразнаўцаў, якія пісалі пра яго творчасць, то не магу не згадаць працы акадэміка Віктара Каваленкі, і вельмі прыемна, што яго эстафету падхапіла дачка Віктара Антонавіча Таццяна Бельская. Яна напісала выдатнейшыя каментары да пяці тамоў Збору твораў. Шамякін карыстаўся большай папулярнасцю не ў крытыкаў, а ў народа. Дактары і архітэктары дагэтуль лічаць, што пра іх прафесію ніхто лепш за яго не напісаў.

Як гэта часта прынята падчас імпрэз, дзе збіраюцца старыя сябры і калегі, святкаванне радаснай падзеі выхаду Збору твораў ператварылася ў абмеркаванне актуальных пытанняў галіны. Член-карэспандэнт НАН Беларусі, доктар філалагічных навук Міхась Мушынскі выказаў занепакоенасць тым, што ў беларускай літаратуры выданне Збораў твораў класікаў у акадэмічным каментаваным фармаце адбываецца вельмі павольна. Даследчык адзначыў, што мы маем пакуль толькі грунтоўныя выданні спадчыны Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Максіма Танка і Івана Шамякіна. Зараз выходзіць Збор твораў Івана Навуменкі. Таму ў гэтым працэсе значна адстаём ад суседніх літаратур, дзе выданне як мага поўных збораў спадчыны класікаў з каментарамі — амаль мода.

Дарэчы, і 23 тамы Збору твораў Івана Шамякіна нельга лічыць поўным прадстаўленнем спадчыны народнага пісьменніка. Некаторыя яго тэксты ўсё яшчэ захоўваюцца ў сямейным архіве Шамякіных. Па меркаванні Сцяпана Лаўшука, члена-карэспандэнта НАН Беларусі, доктара філалагічных навук, даследчыкам варта паклапаціцца пра іх падрыхтоўку да друку. Выданне невядомых твораў класіка можа стаць выдатным падарункам чытачам да 100-годдзя Івана Пятровіча, якое будзе адзначацца праз 6 гадоў.

**Марына ВЕСЯЛУХА,**
**фота аўтара**

# Варштат чакае



Прафесар Яўхім Карскі ў коле сям'і.

Імя Яўхіма Фёдаравіча Карскага (1860 — 1931) — філолага-славіста, заснавальніка беларускага мовазнаўства і літаратуразнаўства, этнографа, палеографа, фалькларыста, нягледзячы на тое, што ўжо дастаткова мінула часу для стварэння яго кананічнага вобраза, усё ж не ўкладваецца ні ў якія энцыклапедычныя межы. І не толькі таму, што ён аўтар фундаментальнай трохтомнай працы «Беларусы», якую лічылі і прадаўжаюць лічыць найвышэйшым дасягненнем еўрапейскай славістыкі канца XIX — пачатку XX стагоддзя. Не, уяўленні пра акадэміка Інбелкульта, колішняга рэктара Варшаўскага ўніверсітэта, прафесара Петраградскага ўніверсітэта падаюцца шмат шырэйшымі. Карскі яшчэ пры жыцці быў прыцягальным і аўтарытэтным для многіх стваральнікаў беларускасці.

Як жа склалася, што ўраджэнец звычайнай гродзенскай вёскі Лаша, хлопчык з сям'і шараговага сельскага настаўніка, змог спасцігнуць сутнасць многіх падзей і з'яў, здолеў даказаць права на існаванне самой беларускай мове, ды і беларускаму народу таксама? Пытанне няпростае. Таму, магчыма, дагэтуль у айчыннай гістарыяграфіі няма кнігі, якая б паказала чалавека, яго рост, сталенне. Не, навуковы партрэт Яўхіма Карскага выпісваўся неаднойчы. У тым ліку — у цікавай, у прынцыпе, кнізе М. Г. Булахава «Евфимий Федорович Карский» (1981). Ды і іншай літаратуры хапае. Публікацыі пра нашага славутага суайчынніка з'яўляюцца ў навуковым друку, у энцыклапедыях і цяпер... Але ж трывожыць галоўнае: якім быў — у дробязях, у дэталях — шлях Карскага да ўсведамлення важных ісцін у станаўленні цэлага народа. Для мяне Карскі — гэта Гісторык, які ўзяў на сябе місію расказаць беларусам пра беларусаў. Так, з вышыні сённяшняга часу бачацца і некаторыя яго навуковыя памылкі, часам наіўныя ўяўленні. Але ж не забывайцеся, што гэта не перашкодзіла вырасці ў асоб цэлай плеядзе яго сучаснікаў, якія не проста карысталіся плёнам даследаванняў акадэміка Карскага, але і былі ў палоне яго навуковых і проста жыццёвых разваг. Сотні работ, фундаментальная праца «Беларусы» былі (і цяпер застаюцца!) крыніцамі, што жывяць навуку Беларусазнаўства, а значыць — усе супольныя да яго дысцыпліны.

Карэспандэнтамі Я. Карскага былі Янка Купала, Якуб Колас, Максім Гарэцкі, Мікола Шчакаціхін, Пётр Бузук, Сцяпан Некрашэвіч, Іван Замоцін, Яўген Хлябцэвіч... Надрукаваўшы толькі гэтую перапіску асобна, можна меркаваць пра партрэт, карціну беларускага жыцця ў самыя няпростыя і самыя важныя для сучаснай гісторыі Беларусі дзесяцігоддзяў.

На працягу некалькіх гадоў часопіс «Нёман» друкуе раздзелы з кнігі праўнука Яўхіма Карскага — Аляксандра Карскага «Акадэмік Карскі». Пачатак быў пакладзены ў 2010 годзе. Відаць па ўсім, што ў гэтага твора дастаткова завершаны характар, паслядоўна адлюстроўваецца ўсё жыццё і ўсе навуковыя, грамадзянскія памкненні вялікага вучонага. І, пэўна, даўно ўжо наспела патрэба выдаць даследаванне санкт-пецярбургскага інжынера (Аляксандр Аляксандравіч — карэнны ленінградзец, цяпер ужо — санкт-пецярбуржац) асобнай кнігай. Мяркуючы па тых пяці грунтоўных падачах «Нёмана» ў 2010 — 2012 гг., да чытача прыйдзе гісторыка-публіцыстычны каментарый як да трохтомных «Беларусаў», так і ўвогуле да лёсу і перакананняў Яўхіма Карскага. Аляксандр Аляксандравіч аддаў сваім росшукам шмат напружаных гадоў. Праўнук акадэміка задаўся клопатам прайсці адрасамі знакамітага прашчура. І дзеля гэтага не толькі аб'ехаў архівы Мінска, Гродна, Варшавы, Нежына (як вядома, акадэмік — выпускнік Нежынскага гісторыка-філалагічнага інстытута князя Безбародкі), іншых гарадоў і краін, але і ўбачыў на свае вочы мясціны, што спрыялі станаўленню асобы Яўхіма Карскага. Атмасфера згаданых гарадоў і іх навуковага асяроддзя ў часы Карскага, тое асяроддзе, якое было побач са студэнтам, а пасля вучоным і рэктарам, прафесарам, — усё гэта пададзена ў рэльефным, аб'ёмным апісанні Карскага-малодшага, праўнука акадэміка.

Відаць, інжынерная адукацыя, інжынернае мысленне ў многім дапамаглі Аляксандру Карскаму па-новаму ўчытацца не толькі ў знойдзеныя, адкрытыя ім дакументы, але і ў самі даследаванні. Ужо нават па часопісных урыўках можна меркаваць, што перад намі — кніга ніяк не меншая, а ў многім вышэйшая за лепшыя ўзоры расійскай серыі «Жизнь замечательных людей». Аляксандр Карскі, як мне падаецца, здолеў зазірнуць у светапогляд Яўхіма Фёдаравіча, раскрыць памкненні яго душы, усвядоміў, якімі былі сардэчныя, маральныя трывогі і прынцыпы вучонага і чалавека з вялікай літары. Няма сумненняў, што выданне новай кнігі пра нашага славутага земляка стане падзеяй у беларускай гістарычнай, гісторыка-літаратурнай навуцы. Прынясе славу любому выдавецтву, якое годна выканае гэтую працу. І я спадзяюся, што ў хуткім часе гэта здзейсніцца. Абавязкова здзейсніцца! І, магчыма, якраз тады знойдуцца адказы на многія пытанні пра Яўхіма Карскага і ўзнятыя ім на пачатку XX стагоддзя праблемы і пытанні.

**Мікола БЕРЛЕЖ**

# У скарбонку еднасці

**Чытачы «ЛіМа» з цікавасцю сачылі за навінкамі серыі кніг «Сугучча сэрцаў», якія выходзілі ў Выдавецкім доме «Звязда» і пад адной вокладкай аб'ядноўвалі творы беларускіх пісьменнікаў і аўтараў з краін СНД.**

Гэтыя выданні занялі пачэснае месца ў бібліятэках Беларусі і замежжа, паказалі, што народы краін былога СССР усё яшчэ маюць шмат агульных інтарэсаў, хоць даўно жывуць уласнымі клопатамі, працуюць у галіне развіцця сваіх эканамічных, сацыяльных, нацыянальных і культурных інтарэсаў. Кніжная серыя яшчэ раз даказала: нам цікавыя літаратуры суседзяў, патрэбныя ўзаемныя пераклады, а напрацоўкі калег у галіне мастацкага пісьма могуць стаць добрай школай для народаў, калісьці аб'яднаных у адну краіну.

Добрае пацвярджэнне тэзісу — з'яўленне новага праекта — літаратурнага альманаха «Сугучча», які стаў спадкаемцам кніжнай серыі не толькі ў назве, але і ў мэце. Гэта першае на прасторах Садружнасці літаратурна-мастацкае выданне, якое мае на мэце садзеянне папулярызацыі літаратур краін СНД. Адметна, што паводле задумкі заснавальнікаў альманаха, на яго старонках з'яўляюцца не толькі літаратурныя творы ў перакладзе на рускую мову, але і артыкулы, эсэ, інтэрв'ю, што тычацца развіцця літаратур на постсавецкай прасторы і творчага супрацоўніцтва паміж пісьменнікамі СНД.

І вось скарбонка еднасці папоўнілася новым выпускам альманаха, прысвечаным асвятленню творчасці аўтараў з Беларусі і расійскага Санкт-Пецярбурга. Літаратурны альманах «Сугучча. Беларусь — Санкт-Пецярбург» не так даўно пабачыў свет у Выдавецкім доме «Звязда». У якасці аўтара ідэі і кіраўніка праекта выступіла міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь Лілія Ананіч.

Што аб'ядноўвае аўтараў з Беларусі і паўночнай сталіцы Расіі? Тэма Вялікай Айчыннай вайны, якая крывавай стужкай праходзіць праз творчасць прадстаўнікоў усіх народаў




СНД; матывы патрыятызму і вялікай любові не толькі да маленькай Радзімы, але і больш шырокай тэрыторыі — Расіі, Беларусі, Украіны; імкненне вывучыць невядомыя старонкі лёсаў выдатных землякоў; эксперыменты ў галіне мастацкага перакладу (нават аўтаперакладу) і жаданне спасцігнуць сакрэты псіхалагічнага стану чалавека. Натуральна, гэта толькі частка тэм, што гучаць-перагукаюцца на старонках новага выпуску альманаха «Сугучча».

Так, пра лёс выдатнага празаіка і драматурга Аркадзя Пінчука, ураджэнца беларускіх Васілевіч, які шмат гадоў пражыў у Ленінградзе, Санкт-Пецярбургу, распавядае ў сваім артыкуле беларускі краязнавец і публіцыст Алесь Карлюкевіч. Гісторыяй палітычных, эканамічных і культурных адносінаў беларускіх і рускіх земляў у далёкай старажытнасці цікавіцца расійскі даследчык і празаік Барыс Косцін, ён нават згадвае легенды з мінуўшчыны. Малюнкі жыцця творчай інтэлігенцыі стварае ў сваіх апавяданнях беларускі празаік Сяргей Лапцэвіч. Эксперыментамі і напрацоўкамі ў галіне паэзіі дзеляцца піцерскія аўтары Андрэй Антонаў, Глеб Гарбоўскі, Міхаіл Ястрабаў, Валянцін Голубеў і Ігар Нікольскі. Беларускі блок вершаў у перакладзе на рускую мову складаюць падборкі Таццяны Сівец (у аўтарскім перакладзе), Ірыны Карнаухавай, а таксама паэтычныя творы Алеся Бадака (у перастварэнні Таццяны Лейкі, Генадзя Аўласенкі, Фёдара Яфімава, Святланы Праўдзінай, Юрыя Мацюшкі, Святланы Карповіч).

Натуральна, гэта не поўны пералік твораў, што склалі новы выпуск альманаха «Сугучча». Але, думаецца, можна быць цалкам упэўненым, што яго змест зацікавіць беларусаў і расіян (не толькі жыхароў Санкт-Пецярбурга), а сам альманах стане вялікім крокам да больш блізкага знаёмства расійскага чытача з беларускай літаратурай.

**Зміцер ХВОЙНЫ**

# «Вайна можа забуртаваць усё чалавецтва»

**Пасля прачытання «Блакаднай кнігі» Алеся Адамовіча і Данііла Граніна мяне хвалявала адно пытанне: чаму? Чаму менавіта ён, беларускі літаратуразнаўца і празаік, узяўся менавіта за запіс гісторыі спакутаваных блакаднікаў? Няўжо не знайшлося ў самім Ленінградзе-Пецярбургу энергічных і таленавітых мастакоў слова, якія б выклалі свой погляд на тыя страшныя дні і ночы?**

У новым — 2015 года — выданні (нашым, мінскім!) ёсць невялікая прадмова дачкі Аляксандра Міхайлавіча — Наталлі Адамовіч. Яна нагадвае пра знаёмства пісьменніка з Галінай Максімаўнай Гарэцкай (1921 — 2006), дачкой рэпрэсіраванага класіка беларускай літаратуры Максіма Гарэцкага. Падкрэслівае ўнікальную ролю Галіны Максімаўны ва ўзнікненні самой задумы стварэння «Блакаднай кнігі». Разам з маці Галіна, якая жыла ў Ленінградзе з 1938 года, была ў эвакуацыі, а пасля блакады настаўнічала ў горадзе на Няве. Прыязджаючы да яе «па справе Гарэцкага», Алесь Адамовіч наслухаўся простых і адначасова трагічных аповедаў.

Пачутыя гісторыі беларускі пісьменнік пераказаў на пасяджэнні бюро секцыі па публіцыстыцы і нарысе СП СССР, якое сабраў Канстанцін Сіманаў. Пераказаў на фоне размовы пра сваю кнігу «Я з вогненнай вёскі...», якую рабіў з Я. Брылём, У. Калеснікам. Хацелася ведаць, ці робяць нешта падобнае ленінградцы. Але ніхто тады не адгукнуўся. Аляксандр Міхайлавіч паспрабаваў расштурхаць да гэтага Фёдара Абрамава. Той спаслаўся, што ў яго — сялянскі куфэрак, які назбіраны з розных запісаў з роднай Вярколы, і трэба яшчэ напісаць не адну кнігу пра лёс рускай вёскі. Тады аўтар ідэі вырашыў, што будзе сам рабіць кнігу. Але, зразумела, у суаўтарстве з кімсці з ленінградцаў. Бліжэй усіх да Адамовіча — праўда, больш праз завочнае знаёмства, перапіску — быў Данііл Гранін. Яму і паведаміў Аляксандр Міхайлавіч пра задуму, як прыклад вылучыў кнігу «Я з вогненнай вёскі...». Д. Гранін неўзабаве адказаў, але заўважыў наступнае: «А дзе знайсці час на такую працу?!» Перамовы, спробы пераканаць, што такая праца патрэбная і самому Граніну, прывялі да таго, што Даніла Аляксандравіч паабяцаў адшукаць разумных суаўтараў. Сабраліся на кватэры ленінградскага пісьменніка па вуліцы Братоў Васільевых. Адамовіч, Гранін і яшчэ трое. Не паразумеліся. Двое з гасцей: «Столькі кніг — і добрых — зроблена, напісана, а ён хоча нешта наноў адкрыць, быццам нага пісьменніцкая там не ступала!» А ў трэцяга іншая прычына: ён не можа пакінуць свае дырэктарскія справы ў выдавецтве. Хаця самому задума прыйшлася па душы. Праз многія гады Алесь Адамовіч так напіша пра тую сітуацыю: «Калі госці сышлі, гаспадар, на вачах у якога я так сакрушальна праваліўся са сваімі «ідэямі», відаць, пашкадаваў мяне. (Тым больш, што яго місія — пасватаць мне суаўтараў — таксама пацярпела крах.)

— Ну, калі так, бяруся я!

Назаўтра мы пачалі запісваць першага блакадніка. 5 красавіка 1975 года — гэта я добра помню. Некуды на вуліцу Шатунова, па адрасу, які дала мне ўсё яна ж, Галіна Максімаўна Гарэцкая. Блакадную гісторыю яе знаёмай я ўжо ведаў у пераказе і розлічваў, ва ўсялякім выпадку хацеў, каб і Данііла Аляксандравіча адразу «зачапіла і пацягнула». Хаця і ведаў (па папярэдняму вопыту), што трэба набрацца цярпення, і тады з 10 — 11 апавяданняў-успамінаў адно атрымаецца ўзрушаючае. Але мне хацелася, каб адразу ж пачуць, запісаць менавіта такое...»

Такім быў пачатак. Перавыдаючы сёння «Блакадную кнігу» ў «Мастацкай літаратуры» (адказны за выпуск — паэт, галоўны рэдактар выдавецтва Віктар Шніп, рэдактар — Марына Яршова), парупіліся, каб кніга была зразумелай для сённяшняга чытача як мастацкая і грамадзянская з'ява. Выдадзеная ўпершыню ў Ленвыдаце, «Блакадная кніга» вытрымала нямала выданняў. Аляксандрам Скуратавым нават фільм быў зняты — «Чытаем блакадную кнігу». Аўтары сцэнарыя — Алесь Адамовіч і Данііл Гранін. У кадры (фільм на 96 мінут) людзі розных прафесій чытаюць па адным-два ўрыўкі з кнігі. Услед за акцёрамі Алегам Басілашвілі і Іванам Краско чытаюць суворавец Аляксей Вікульеў і першакласнік 56-й гімназіі Санкт-Пецярбурга Леў Няймышаў. «Блакадная кніга», якая мае да дзесяці асобных выданняў на рускай мове, таксама выходзіла ў перакладзе на англійскую, балгарскую, беларускую, венгерскую, дацкую, нямецкую, польскую, славацкую, чэшскую, японскую мовы. Асобныя раздзелы з кнігі друкаваліся па-кітайску ў часопісе «Сусветная літаратура». У 2014 годзе «Блакадная кніга» была перавыдадзена ў Санкт-Пецярбургу тыражом 5 тысяч экзэмпляраў. А яшчэ раней — у 1994 годзе — неўміручы твор убачыў свет 100-тысячным накладам (!).




У «Мастацкай літаратуры» выданне дапоўнілі прадмовай Наталлі Адамовіч, якую ўжо згадвалі, інтэрв'ю з Алесем Адамовічам «З чаго пайшла, пачыналася «Блакадная кніга» (упершыню яно было надрукавана ў альманаху «Братэрства» ў 1982 годзе), публікацыяй «З запісных кніжак» Алеся Адамовіча, артыкулам Данііла Граніна «Гісторыя стварэння «Блакаднай кнігі». Напрыканцы пададзена і апавяданне Д. Граніна «Ромавыя бабы».

Кожная са старонак шчырай споведзі ленінградцаў-блакаднікаў узрушвае, прымушае мацней біцца сэрца. «Блакадная кніга» — не для лёгкага чытання. Мо таму так настойліва змагаліся цэнзары з першымі публікацыямі раздзелаў «Блакаднай кнігі», здымаючы ў тэксце многія жорсткія эпізоды. Не было ў ранейшых выданнях (друкаваць гэтую главу пачалі ўжо з выдання 2014 года) і старонак пра канібалізм. Раней не задавальнялі цэнзараў ацэнкі ахвяр, прыклады зусім не гераічных паводзін людзей. «Блакадная кніга» ў многім парушала стэрэатыпы, выкладзеныя такімі «геройскімі» пісьменнікамі, як, напрыклад, Аляксандр Чакоўскі са сваёй эпапеяй «Блакада». Але ж хіба мужнасць, драматызм пакут — не сугодзічны гераізму, смеласці, адвагі?!

Відавочна, што сама задума «Блакаднай кнігі» скіравана супраць вайны, супраць дыктатуры насілля і гвалту ў розных іх праявах. Невыпадковымі падаюцца словы Алеся Адамовіча на самым пачатку новага мінскага выдання: «Вось я на Піскараўскім. Усё пад снегам, маўчыць і крычыць. Забуртаваныя мільёны трупаў, забуртаваны горад. Бурты гэтыя яшчэ могуць загаварыць, сказаць патрэбнае людзям, свету — і пра тое, як вайна можа забуртаваць цэлыя краіны і ўсё чалавецтва. Не хтосьці павінен зрабіць гэта. Не возьмуцца яны, буду рабіць адзін два гады, пяць гадоў...»

Так напісаў Алесь Адамовіч, выбіраючыся ў дарогу за блакаднымі гісторыямі, у 1975 годзе. «Блакадная кніга», запісаная пецярбуржцам і мінчанінам, адбылася, мае свайго чытача. І новае выданне ў «Мастацкай літаратуры» таму сведчанне.

**Павел АЛЬСОВЫ**

Аблічча

# Нектар душы Ніны Мацяш



Ніна Мацяш у доме творчасці «Іслач». Верасень 1987 г.

Далучыўшыся да сяброў Ніны Мацяш, я трапіў разам з імі ў гасцініцу «Мінск». У адным з нумароў уладкавалася госця з Берасцейшчыны, і мы ўвесь вечар вялі цікавыя размовы. Раптам зазваніў тэлефон, Ніна падняла слухаўку і нібыта прабачылася перад намі: «Гэта з дому турбуюцца...» І палілася гаворка на матчынай мове. Ніна ніколечкі не засаромелася нас, бо з мамаю і трэба размаўляць на яе святой мове вёскі Нівы Бярозаўскага раёна.

Я быў уражаны? Напэўна, так. Але Ніціна дзівоснае гучанне ў гаворцы зімовага вечара напрыканцы тых 1960-х гадоў я прыбярог як павучанне на ўсё жыццё.

У мяне была старэйшая сястра Ніна. А калі з Нінай Мацяш склаліся шчырыя сяброўскія стасункі, і яе стаў называць сястрою (малодшай ці не на паўтара года). Пільна сачыў за яе творчасцю, такой прытульнай, чуллівай. У 1970 годзе ў Ніны выйшаў зборнік «Агонь». А калі атрымаў ад аўтаркі кніжачку «Ралля суровая», не ўтрымаўся і надрукаваў у газеце «Голас Радзімы» (21 студзеня 1977 года) сваё ўражанні пра шырыню яе міжкантынентальных зацікаўленняў. Водгук выйшаў пад назвай «Толькі блізкіх зближае ростань». Тут побач дотыкаў з еўрапейскімі творцамі — лірычнае дакрананне да мамы. Уразілі шчымлівыя словы Ніны: *«Колькі песень ты, мамачка, // некалі ведала, — мора!»*

І тут я не быў у даўгу перад Нінай: ад сваёй мамы запісаў на магнітафон некалькі народных твораў — на матчынай мове!

А ў тым жа 1977 годзе атрымаў ад Ніны такі водгук: *«Прыемна ўзрушана неспадзяванкай — тваёй рэцэнзіяй. Спадабалася, і не таму толькі, безумоўна, што станоўча ацэньваеш зборнік. Падкупляе глыбокая эрудыцыя, стрыманасць тону і, што заўжды вельмі важна для мяне, тактоўнасць. Цярпець не магу спекулятыўнага захлёбу»*.

Для мяне кодэксам гонару, апостальскай меркаю сціпласці, духоўнай падтрымкі сталіся ахвярынкі Ніны Мацяш: лісты, паштоўкі, дарчыя надпісы — увесь эпісталярны скарб з Белаазёрска. Яна адгукалася на кожнае віншаванне-зычэнне, старалася адказаць на самыя незвычайныя просьбы. Працуючы ў выдавецтве «Юнацтва», я рыхтаваў да друку розныя тэматычныя зборнікі. У адказ на маё запытанне пра радзінныя мясціны 22 жніўня 1979 года Ніна напісала: «...*Ну а вёска Нівы на Бярозаўшчыне — мая калыска. Паблізу — Белае возера, дзе стараюся бываць часцей, бо мне хораша там... Па сутнасці, усё — і Нівы, і возера Белае, і Белаазёрск — адно гняздо і ёсць, і я ў ім — тая птушка, якая не ведае выраю»*.

Ніна ўмела падзякаваць, далікатна пахваліць і тым самым перадаць павучанні ў складаных варунках жыцця. У часопісе «Полымя» (№ 8, 1983 г.) надрукавалі маю рэцэнзію «Сэрца звычайнай канфігурацыі» на кнігу лірыкі Ніны Мацяш «Поўны келіх». І 23 верасня атрымаў з Белаазёрска ліст: *«Дзякуй, даражэнькі, за глыбокае разуменне майго слова, майго радка — дакладней, таго, ш т о за словам, за радком... Ты надзіва тонка адчуваеш мае вершы, вельмі дакладна акрэсліваеш гэтае разуменне, і я шчыра, усёй душой удзячна табе за твае думкі, выказаныя ў г о л а с. Так і трэба рэцэнзаваць зборнікі, паэзію. Істотай адчуваючы!»*

У 1985 годзе быў выдадзены ўкладзены мной зборнік «Воляй азорыцца свет». Ад Ніны Мацяш трапіў туды толькі адзін верш. Яна апраўдвалася перада мною за такую сціпласць: *«Сам ведаеш, няма ў мяне гучнай публіцыстыкі, свет інтымны і свет агульначалавечы сплаўлены для мяне ў адно...»* (3.10.1984 г.).

Уразіла мяне і такое выказванне Ніны: *«Выбраць нейкі адзін верш сапраўды страшэнна цяжка. І яшчэ ты памятуй, дружа: калі пішаш крывёю, то кожны верш — як тэстамант»* (20.02.1986 г.).

З Нінай Мацяш мы часта перагукваліся і вершамі. Хто прагартае зборнік Ніны «Я вас люблю...», той прызнае, што гэтыя радкі — пра нас:

*...І любасць белаю лілеяй*
*Усходзіць з хваль саракавых...*

Суцяшалі, абнадзейвалі іскрынкі слоў, што перасылаліся з Белаазёрска: *«Зычэнні — самыя найлепшыя — як брату дарагому»* (20 лютага 1986 г.); *«Хай сагрэе цябе вестка, што і на гэты раз я думкаю побач з табою, маім братам. Жыві доўга і горача!»* (10 траўня 1987 г.); *«Мне дарагое ўсё тваё — і згадкі, і вершы. Дзякую Лёсу, што ты — мая радня»* (18 красавіка 1995 г.); *«Няхай Хрыстова нараджэнне ўмацуе ўсіх нас у чыстасці, роднасці, любасці, годнасці!»* (16 снежня 2003 г.).

У 2008 годзе я атрымаў ад Ніны ўкладзены ёю альманах «Жырандоля» з дарчым надпісам. На асобнай паштоўцы было пазначана: *«Сярожачка! Вось і выйшла наша «Жырандоля». Выданнем я задаволеная, бо аўтары шчаслівыя.*

*Будзь! Жыві доўга, рухава, крылата! 7 траўня 2008 г.»*

Гэта была апошняя вестка ад Ніны Мацяш — паэтэсы, драматурга, сцэнарыста, перакладчыка... Яе называлі каралевай паэзіі. А я назаву яе вясёлкай над мацерыкамі, узгадаўшы з усёй творчай спадчыны толькі 15 кніг перакладаў з французскай, нямецкай, польскай, украінскай моў. Таму Ніна была «раднёй па духу» ўсім запрошаным (разам з ёй) на Міжнародны семінар перакладчыкаў беларускай літаратуры, які праходзіў з 16 па 26 верасня 1987 г. у доме творчасці «Іслач» пад Ракавам. На адным з пасяджэнняў перакладчыкаў у мяне атрымаўся самы дарагі фотаздымак усмешлівастрымана́й Ніны Мацяш.

Не так даўно на свяце «Бабіна лета ў Белаазёрску разам з Нінай Мацяш» я атрымаў паштоўку-запрашэнне: «Створым кнігу пра Ніну Мацяш разам». Вось і я далучаю свой верш у Мацяшоўскую анталогію.

## Пчолка

*Душа нектар свой, быццам пчолка,*
*усё шукае ў полі руху.*
Ніна Мацяш

*Вясёлкай Ніначка была.*
*Жыла і ў Ніны*
*жар-птушка; пчолка з ёй піла*
*нектар з каліны.*
*Трыпутнік радасці — лячыў*
*усе сустрэчы...*
*І як яе праз далячынь*
*крануць за плечы?*
*Бог будзе за яе старацца,*
*каб кожны верш быў за пасла.*
*Сцяжынка помыслаў і працы*
*між нас быллём не парасла.*

**Сяргей ПАНІЗНІК,**
**фота аўтара**

# Тры кіты залатой серыі

Дваццацігоддзе выдавецкага праекта «Беларускі кнігазбор», а таксама выхад у яго межах васьмідзясятага тома — Збору выбраных твораў паэтэсы і перакладчыцы Ніны Мацяш адзначылі адмысловай імпрэзай у Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.

Не ўсе выданні, што выйшлі пад залатым знакам "Беларускі кнігазбор", змясціліся на выставачных паліцах бібліятэкі, але госці імпрэзы былі не проста прыхільнікамі серыі, а і ўкладальнікамі, рэдактарамі, аўтарамі тамоў. Георгій Кісялёў, галоўны рэдактар Выдавецкага дома «Беларуская навука», які цяпер апякуецца выпускам кніг гэтай серыі, распавёў:

— Дваццаць гадоў таму ўзнікла ідэя ажыццявіць грунтоўны выдавецкі праект «Беларускі кнігазбор». Аўтар ідэі і нязменны галоўны рэдактар серыі — паэт, перакладчык, фалькларыст Кастусь Цвірка. Праект выйшаў са сцен акадэмічнай установы — Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. І сімвалічна, што праз некаторы час яго ажыццяўленне зноў вярнулася ў сцены акадэміі навук. На гэты раз — у Выдавецкі дом «Беларуская навука». У планах «Беларускага кнігазбору» — шмат напрацовак, ідэй. Думаецца, хутка прыйдзе час, калі мы будзем прэзентаваць соты том праекта.

Некаторыя выступоўцы падчас вечарыны прызналіся: калі серыя засноўвалася, не надта верылі, што праект рэалізуецца ў такім аб'ёме. Поспех тлумачылі проста: «Беларускі кнігазбор» трымаецца на трох кітах — энтузіязме, прафесіяналізме і глыбокіх ведах укладальнікаў, рэдактараў і выдаўцоў. Таму і планпраспект, які калісьці Кастусь Цвірка прапанаваў на разгляд акадэміку Віктару Каваленку, тагачаснаму дырэктару акадэмічнага інстытута літаратуры, можна лічыць не проста задумкай кніжнай серыі, але і цэлай канцэпцыяй гісторыі развіцця айчыннай літаратуры. Некаторыя выданні, што раней пабачылі свет у межах серыі «Беларускі кнігазбор», ні ў якім іншым месцы выйсці не маглі. Гэта, да прыкладу, збор твораў Кастуся Каліноўскага, надзвычай прафесійна падрыхтаваны Генадзем Кісялёвым, ці кніга тэкстаў Вацлава Ластоўскага, укладзеная Язэпам Янушкевічам.

Рэдактар залатой серыі Кастусь Цвірка зазначыў:

— Выдатна, што гэтая вечарына — не проста святочная імпрэза, але і дзелавая гутарка пра ўжо зробленае, недахопы выданняў, што пабачылі свет, а таксама планы на будучыню. Пра гісторыю «Беларускага кнігазбору» распавядаць можна доўга, але яна пачалася з плана аж на дзве сотні тамоў. Серыя меркавалася як шлях прадстаўлення нашай літаратуры, якая стваралася цягам многіх стагоддзяў. Думаецца, калі мы цалкам ажыццявім задумку, то на паліцах будзем мець фактычна аснову нашай культуры, літаратуры.

Кастусь Аляксеевіч прыгадаў, што першым томам, які выйшаў пад маркай «Беларускі кнігазбор», стаў збор твораў Яна Чачота, яго выпуск падтрымала колішняе Міністэрства культуры і друку краіны. Дзяржава прафінансавала і выданне некалькіх наступных кніг у межах праекта. З гэтага часу стала працэй шукаць мецэнатаў для падтрымкі справы: чытачы і выдаўцы ўжо атрымалі магчымасць пазнаёміцца з кнігамі серыі, ацаніць іх якасць і значэнне для культурнага жыцця краіны. Над падрыхтоўкай тамоў працавалі такія выдатныя навукоўцы, як Міхась Тычына, Лідзія Савік, Іван Саверчанка ды іншыя, таму не ўзнікала сумневаў ва ўзроўні падрыхтоўкі кніг.

Генадзь Вінярскі, дырэктар выдавецтва «Кнігазбор», якое шмат гадоў апекавалася серыяй, адзначыў, што сёння вельмі няпроста адгадаць, якая з кніг праекта будзе асабліва папулярнай сярод чытачоў. Да прыкладу, большай запатрабаванасцю ў нашы дні карыстаецца проза і навуковапапулярная літаратура. Аднак нечакана хутка разыходзяцца і зборы выбраных твораў некаторых паэтаў. Так, кніга вершаў Валянціна Таўлая, выдадзеная ў юбілейны год аўтара, атрымала шырокую ўвагу чытачоў. Па меркаванні выдаўца, такім жа вялікім поспехам мог бы карыстацца і томік паэзіі Анатоля Сыса, які варта было б уключыць у план серыі.



Кастусь Цвірка распавядае пра гісторыю стварэння серыі «Беларускі кнігазбор».

Думаецца, не застанецца без увагі і новае выданне «Беларускага кнігазбору», якое змяшчае выбраныя творы паэткі і перакладчыцы Ніны Мацяш. Яго падрыхтавалі добрыя сябры Ніны Іосіфаўны Уладзімір Васілевіч і Галіна Скарына, прадмову напісаў Генадзь Праневіч. Кніга ўкладзеная за досыць кароткі прамежак часу, аднак даследчыкі адзначаюць, што яна зробленая на высокім тэксталагічным узроўні, а ў змесце прадстаўленыя ўсе жанры, у якіх працавала Ніна Мацяш. Гэта вершы, паэмы, пераклады, эсэ, успаміны, артыкулы... Асаблівa вялікую ўвагу варта звярнуць на эпісталярную спадчыну паэткі, прадстаўленую ўпершыню. Сябры, знаёмыя, якія ліставаліся з Нінай Мацяш, адзначаюць, што яе лісты, паштоўкі заўсёды неслі шмат дабрыні і аптымізму. І ўсе разам яны складаюць асобную паэму душы Ніны Іосіфаўны.

Выхад новага тома «Беларускага кнігазбору» стаў і нагодай падзяліцца ўспамінамі пра Ніну Мацяш. Сябры, калегі-паэты ўспаміналі, як з задавальненнем ездзілі на Берасцейшчыну, у Белаазёрск, каб сустрэцца з паэткай, паразмаўляць з ёй. Фізічна дужыя людзі ехалі да Ніны Іосіфаўны, каб атрымаць нейкае духоўнае падмацаванне. Нават у вазку, у якім паэтка правяла больш як трыццаць гадоў, яна выпраменьвала аптымізм, святло. Пэўна, падсілкаваннем для чытачоў стане і новая кніга выбраных твораў Ніны Мацяш.

80 тамоў «Беларускага кнігазбору», што пабачылі свет, — гэта далёка не ўся серыя. Выдаўцы і рэдактары мяркуюць: варта было б падумаць пра перавыданні найбольш папулярных тамоў, якія надзвычай хутка «разляцеліся» па бібліятэках краіны і замежжа. Таксама ў планах праекта — падрыхтоўка новых тамоў твораў класікаў: Ядвігіна Ш, Лукаша Калюгі, Уладзіслава Галубка, Уладзіміра Дубоўкі, Аркадзя Куляшова, Яўгеніі Янішчыц, Пімена Панчанкі, Максіма Танка. Залатая палічка літаратуры можа папоўніцца і кнігамі сучаснікаў: Віктара Казько, Алеся Жука, Алеся Разанава, а таксама стаць сцежкай да шырокага чытача для такіх амаль невядомых аўтараў, як Адам Нарушэвіч, Юльян Нямцэвіч, Ева Фялінская, Павел Шпілеўскі, Уладзімір Самойла, Іван Ласкоў.

Доўгага жыцця «Беларускаму кнігазбору»!

**Марына ВЕСЯЛУХА,**
**фота аўтара**

*Парады пачаткоўца*

# Сусвет на паперы



Ігар ПАЛЯКОЎ

Сёння я павінен напісаць пра самае складанае для кожнага пачаткоўца. Як перастаць ім быць. Гэта асабліва важна для аўтара, чыю кнігу ўжо выдалі. Таму што адразу пасля выхаду твора, прэзентацый ды першых аўтографаў абавязкова зададуць пытанне: «Вы ўжо напісалі другую кнігу?».

Хтосьці, магчыма, напісаў раманаў дзесяць, якія раскладзеныя ў файлы. Але справа вось у чым: выданне кнігі — гэта, зборльшага, поспех. Так «зоркі сышліся»: захапляльная гісторыя, годны тэкст, упартая праца, магчыма, перамога ў конкурсе (як было са мной), але вырашальнае слова — за выдаўцамі. Кніга выйшла. Гэта значыць, што аўтар-пачатковец склаў велізарную «суму» з натхнення, таленту, руплівай працы і вялікага жадання! Вельмі няпроста навічку «зачапіць» сэрца вопытнага выдаўца. Амаль немагчыма (будзем шчырыя!). Выходзіць, у вашай кнізе ёсць кісларод, ідэі, вобразы, якія натхнялі не толькі вас. Не забудземся пра камерцыйны патэнцыял «прадукту» — вы змаглі і гэта.

І вось зараз перад камерамі ды мікрафонамі гучыць сакраментальнае пытанне: «Вы ўжо напісалі другую кнігу?». Прабачце, але перафармулюю яго так, каб тыя самыя файлы з рукапісамі былі тут жа выкінутыя ў кошык. «Вы ўжо напісалі такую ж кнігу, якая будзе неаддкладна выдадзеная, прададзеная ды з радасцю прынятая чытачамі і крытыкамі?» Тут можна ставіць кропку. Але...

Я не раз чытаў пра цяжкасці другой кнігі. Нават у мастацкіх творах, дзе галоўны герой — пісьменнік, які выдаў паспяховы раман, потым доўга пакутуе над другім. Праўда-праўда! Зараз ад цябе ўсе чакаюць ні ў якім разе не горшага тэксту. Ты таксама спадзяешся. І гэта душыць. Разумееш: дзверы ў пісьменніцкі свет адчыніліся, ты ўвайшоў, трэба рухацца далей. А куды ісці? Што пісаць, «каб не горш»? Як паўтарыць поспех? Я не ведаю. І сам імкнуся знайсці адказы на гэтыя пытанні.

Мне здаецца, першая кніга — гэта сукупнасць натхнення, унутраных перажыванняў, асабістага досведу ды ўласнага аўтарскага ўяўлення пра жыццё. Такая вось выбудаваная ў тэксце мадэль свету. Зразумела, што ў гэты свет мы ўкладаем усю душу, сілы, розум, а галоўнае — жаданне. Але калі гэта ўсё выдадзена на паперы? Што далей? Ёсць два шляхі: прыдумваць новую гісторыю ці развіваць папярэднюю. Свой першы сюжэт я завяршыў адразу. Дый не люблю ўвесь час круціцца вакол старога, хай нават вельмі добрага. Таму вырашыў адысці ад стылістыкі і тэматыкі першай кнігі, каб не стаць «акторам аднаго амплуа». Вось ужо ёсць і першы крок — змяняем стылістыку. Другім крокам хай стане ўнутраны імпульс. Проста ўявіце, якая думка, ідэя можа вас захапіць. Каб было лягчэй, уявіце, якое кіно вы хацелі б зняць, калі былі б рэжысёрам. Мяне гэта захапляе. Вось такое кіно і пішыце на паперы.

Не трэба думаць пра строгую форму сюжэта. Пішыце так, нібыта самі трапілі ў гэтую гісторыю. Усе формы, паваротныя моманты, перыпетыі, лініі з'явяцца потым. Вы ж напісалі першую кнігу, значыць, памяць засталася. А пакуль проста падарожнічайце ў сюжэце. Ідзіце за героямі — яны павінны ведаць, што рабіць. Прыдумайце канфлікт, які дапаможа разгарнуць гісторыю і прывесці да захапляльнай развязкі. Гэта як «Тэорыя вялікага выбуху»: маланка — і праз некалькі месяцаў гатовы сусвет новай кнігі. А колькі яшчэ гэтых сусветаў у вас будзе!

# Фарбы армянскага мастацкага жыцця

Наўмысна ў назве артыкула прамалінейна абазначыў абсягі размовы. У дадзеным выпадку — пра кнігу Карэна Мікаэляна «Вось дзяржава, яна, верагодна, хутка вамі зацікавіцца...», якая выйшла ў Ерэване ў 2013 годзе. Якія адносіны мае да нас зборнік артыкулаў і рэцэнзій пра выяўленчае мастацтва Арменіі?.. Па ранейшым часе менавіта такая пастаноўка пытання спрацавала б найперш. І пра чужую мастацкую прастору наўрад ці разважаў бы айчынны літаратурна-мастацкі друк. Маўляў, нашы выданні часам застаюцца па-за ўвагай, пра свае нават і не разважаюць. Якая ж гэта такая ў аўтара сувязь з Беларуссю, што ты павінны пра яго пісаць? Ці не хапае ў нас «свайго», уласна беларускага?




Усё нібыта так. За выключэннем хіба што аднаго. Армянскі журналіст, які з 1993 года працуе ў газеце «Новое время» ў Ерэване, сабраў пад адной вокладкай бліскучыя мастацкія рэцэнзіі, выдатныя артыкулы, якія дазваляюць уявіць поўную карціну мастацкага жыцця Арменіі за апошнія дзесяцігоддзі. «Я пісаў пра тое, што было б цікавае не толькі мне як практыку, але перш за ўсё чытачу газеты», — заўважае ў прадмове «Ад аўтара» Карэн Мікаэлян. А перш ідзе артыкул, які даў назву кнізе «Вось дзяржава, яна, верагодна, хутка вамі зацікавіцца...» Напісаныя ў 1993 годзе радкі актуальныя і цяпер. Між іншым, для ўсіх. Незалежна ад месца жыхарства. «Магчыма, улады ў мітусні дзяржаўных спраў не цалкам усведамляюць, што мы аказаліся на перыферыі сусветнага мастацкага працэсу, магчыма, у іх проста не хапае часу. Наколькі нам ёсць што губляць, хочацца пачаць крутую мужчынскую размову. Менавіта таму мы просім людзей мастацтва і тых, хто спачувае, «выйсці пагаварыць». Можа быць, нешта і атрымаецца».

Як мне падаецца, выйсці пагаварыць атрымалася. І што істотна — у розных жанрах: і ў рэцэнзіях, і ў аглядах, і ў творчых партрэтах, і ў карэспандэнцыях, і ў артыкулах «на тэму». Карэн Мікаэлян вольна пачуваецца ў кожным з іх. А галоўнае — вольна падарожнічае з аднаго мастацкага сусвету ў іншы. Крытык расказвае чытачу пра галоўныя творчыя, жыццёвыя ісціны, вылучае сапраўднае, рашуча руйнуе псеўдамастацтва, якой бы вагі пастамент ні быў пад ім узведзены. Вастрыня, эмацыянальны замах, гранічная шчырасць у размове пра жывапіс, графіку, скульптуру, дэкаратыўна-прыкладное мастацтва — гэтыя рысы робяць прыцягальнымі ўсе без выключэння старонкі кнігі Карэна Мікаэляна.

Дзякуючы менавіта «малюнкам мастацкага жыцця» армянскага крытыка я адкрыў для сябе зусім новага Марціроса Сар'яна. Не магу не працытаваць вось гэтыя радкі з кнігі К. Мікаэляна: «Варпет Марцірос Сар'ян жыў жыццём сваёй зямлі і этнасу, ні на секунду ад іх не адрываючыся. Вось фрагмент ліста, які быў напісаны ў страшным 1915 годзе: «Усё, што меў, замкнуў у скрыню, аддаў на захоўванне знаёмаму і пакінуў майстэрню. Прыехаў у Арменію, на маю выпакутаваную і расцяганую Радзіму».

Цікава, што напісаў бы Варпет сёння, якія б словы падабраў, калі ўбачыў бы надзіва чароўную панараму сённяшняга армянскага жыцця! Пэўна, сярод гэтых слоў было б «раскрадзеную», можа нават «разбэшчаную». Можа быць, Варпет напісаў бы наноў «Паляцім ізноў у вечнасць»...

Са старонак кнігі паўстаюць такія волаты мастацтва, як Ерванд Кочар, Бенік Петрасян, Харэн Тэр-Аруцян, Роберт Жмібекян і шмат хто яшчэ. Пра аднаго з іх Карэн Мікаэлян напісаў: «...Ён рэагуе на самыя кволыя рухі армянскага грамадства і душы. Канечне, па-свойму. Пры тонкім і далікатным характары, пры інтэлігенцкай вытрымцы яго рэакцыя як жывапісца — гэта і ёсць метад барацьбы. Мастаку зусім не абавязкова лезці на барыкады. І тым болей кідацца ў палітыку...» Тут, відаць, няма і чаго дадаць.

Павел АЛЬСОВЫ

*За падзеяй*

# Раман ці дзённік?

**Прэзентацыя кнігі Віктара Шніпа «Заўтра была адліга», што пабачыла свет сёлета ў выдавецтве «Мастацкая літаратура», адбылася ў Цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя Янкі Купалы. Імпрэза ініцыявана Дзяржаўным музеем гісторыі беларускай літаратуры і Мінскім гарадскім аддзяленнем саюза пісьменнікаў Беларусі.**



На пачатку прэзентацыі некалькі музычных кампазіцый выканаў узорны ансамбль скрыпачоў і віяланчэлістаў СШ № 77 «Элегія».

Галоўны спецыяліст МГА СПБ Іна Фралова згадала сваю першую сустрэчу з Віктарам Шніпам, што адбылася амаль пяць гадоў таму: ён выступіў рэдактарам абедзвюх кніг яе лірыкі. «Віктар Анатольевіч — гэта мае ўніверсітэты, прычым не толькі ў творчасці, але і ў стаўленні да людзей», — зазначыла паэтэса. Потым яна адкрыла для сябе В. Шніпа як перакладчыка. Шчырае слова пра пісьменніка прамовіла і загадчык культурна-адукацыйнага аддзела Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры Лідзія Шагойка.

Завітала на прэзентацыю жонка Віктара Шніпа — пісьменніца Людміла Рублеўская, якая распавяла пра герояў дзённікавых запісаў Віктара Анатольевіча. А разам творцы прадэманстравалі прысутным сямейную фотахроніку: дзіцячыя і юнацкія гады В. Шніпа, яго бацькі, дзеці, творчыя настаўнікі, калегі па пяры... І, канечне ж, выявы роднай прыроды, на ўлонні якой сталеў талент пісьменніка (родам В. Шніп з вёскі Пугачы Валожынскага раёна).

«Дзённікавы раман паэта» — так акрэслівае жанр кнігі «Заўтра была адліга» сам аўтар. Насамрэч, дзённікавыя запісы, зробленыя ў век «блогаратуры» — твораў, што ствараюцца ў сеціве, — гожа спалучаюцца тут з лірычным роздумам, філасофіяй, афарыстычнасцю, анекдатычнасцю. Людзі, падзеі, ідэі — усё ў адной кнізе. Ды і чытачоў аўтар заклікае не ленавацца пісаць дзённікі, якія сам вядзе з 18 гадоў.

Яна ЯВІЧ

*Імпрэзы*

# Рэха ў сэрцах маладых

Геаграфія фестывалю маладой паэзіі Беларусі, ініцыяванага Мінскім гарадскім аддзяленнем СПБ, пашырылася: чарговы этап адбыўся ў Мінскім гарадскім адукацыйна-аздараўленчым цэнтры «Лідар». Прысвечаны 70-годдзю Вялікай Перамогі, фэст зладжаны сумесна з Дзяржаўным музеем гісторыі беларускай літаратуры.

Старт фестывалю даў паэт Мікола Чарняўскі, падзяліўшыся ўспамінамі пра ваенные дзяцінства. Вялі імпрэзу загадчык культурна-адукацыйнага аддзела Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры Лідзія Шагойка і галоўны спецыяліст МГА СПБ Іна Фралова. Сярод удзельнікаў — маладыя творцы, у тым ліку сябры Саюза пісьменнікаў Беларусі.

Свае творы на суд гледачоў прадставілі Тацццяна Купрыянец, Анастасія Кузьмічова, Ксенія Валенда, Адам Шостак, Яна Явіч, Ганна Чумакова ды Ігар Пятровіч. Верш Роберта Раждзественскага «Канцэрт» выканала музыказнаўца Ала Агаркава. Уласны верш «Штрафная рота» прачытала Іна Фралова. Гучалі вершы і песні ў аўтарскім выкананні госці фэсту, паэтэсы і барда Алены Свечнікавай, лірыка паэтэсы Наталлі Алейнікавай. Узялі слова і выхаванцы «Лідара»: напрыклад, Антон Статкевіч прадэкламаваў уласны паэтычны твор «Гора вайны».

Пераможцай фэсту стала паэтэса і бард, сябра СПБ Ганна Чумакова: па выніках глядацкага галасавання яна атрымала прыз «Паэтычная котка».

Арына КРАЙКО

# Дзмітрый ЯКУБОВІЧ:

# «Кожнаму пакаленню — свой Астап Бэндэр»



*Фота Дар'і Буракінай, Анжалікі Грэковіч*

**Зусім хутка на нашай тэатральнай сцэне з'явіцца Астап Бэндэр. Гэты вобраз прымерыць на сябе акцёр, які яшчэ з дзяцінства захапіўся творчасцю «вялікага камбінатара» Андрэя Міронава. Вось ужо амаль два дзясяткі гадоў у прафесіі артыст аперэты і мюзікла, а цяпер саліст, харэограф і кіраўнік Тэатра Генадзя Гладкова «Тэрыторыя мюзікла» Дзмітрый Якубовіч удасканальвае творчыя якасці, якія калісьці так уразілі яго ва ўлюбёнцы мільёнаў савецкіх гледачоў.**

Лёгкасць, музычнасць, цудоўная харэаграфічная падрыхтоўка даўно сталі візітнай карткай Дзмітрыя Якубовіча. Новая прэм'ера мюзікла-містыфікацыі «12 крэслаў», якая адбудзецца 7 чэрвеня ў Палацы прафсаюзаў, працягне абраную маладым тэатрам творчую лінію — развіццё ў нашай краіне жанру мюзікла на правераным часам мастацкім матэрыяле і ў новым сучасным яго асэнсаванні. Пра Андрэя Міронава, Генадзя Гладкова, савецкую культуру, грошы і пошласць карэспандэнт «ЛіМа» пагутарыла з Дзмітрыем Якубовічам напярэдадні прэм'еры.

**— У вашым тэатральным паслужным спісе ёсць міністр-адміністратар у «Звычайным цудзе», хутка з'явіцца Астап Бэндэр. Гэтыя вобразы ў свой час сталі вядомымі і любімымі дзякуючы Андрэю Міронаву. Звычайна пытаюцца, ці ўдаецца быць арыгінальным і не капіраваць знакамітага артыста, але я задам пытанне інакш: што вы наўмысна ўзялі ў Міронава?**

— У дзяцінстве я глядзеў савецкія фільмы і неяк адразу для сябе вылучаў яго сярод выканаўцаў. А потым ён непрыкметна стаў і арыенцірам — як артыст, як тэатральны прафесіянал. Яго камедыйны талент, музычнасць, арганічная акцёрская манера існавання на пляцоўцы, паважлівае стаўленне да публікі і калег мне заўсёды вельмі імпаніравалі. І вольна ці міжволі я пачаў раўняцца на Міронава. Мяркую, што маё ўвасабленне Астапа Бэндэра ў чымсьці будзе нагадваць міронаўскае. А чаму б і не? Пры адчуванні блізкасці па духу нікуды не падзецца ад паралеляў. Я наўмысна іх не пазбягаю. Зроблены на кінаэкране вобраз Астапа мы падхопліваем і нясём далей у народ ужо ў тэатральнай версіі.

**— Але ж ёсць і іншыя цікавыя ўвасабленні Астапа...**

— Кожнаму пакаленню — свой «вялікі камбінатар». На кінаэкране было некалькі яго вобразаў. Прычым першыя кінаверсіі знятыя вельмі нечакана зусім не на радзіме рамана, а ў Польшчы, Чэхаславакіі, нацысцкай Германіі, Бразіліі і нават на Кубе. Савецкі Астап з'явіўся толькі ў 1966 годзе на ленінградскім тэлебачанні. Далей была цудоўная стужка Леаніда Гайдая з Арчылам Гаміяшвілі і Сяргеем Філіпавым. А на мой час прыйшоўся якраз музычны фільм Марка Захарава з Міронавым і Папанавым у галоўных ролях і музыкай Гладкова, якая ў значнай ступені, лічу, паўплывала на поспех.

**— У тэатральнай версіі «12 крэслаў» Генадзь Гладкоў, Марк Захараў і Юлій Кім перанеслі дзеянне мюзікла блізка да сучаснасці. Як сябе адчувае Астап у нашы дні?**

— Вельмі ўпэўнена. Якасць жыцця людзей паляпшаецца, а стасункі застаюцца ранейшымі. На зломе эпох, у смутныя часы жулікі заўсёды актывізуюцца. Астап, дарэчы, у нас зусім не нягоднік, а даволі пазнавальны сёння тыпаж — абаяльны дзелавіты малады чалавек з манерамі нармальнага сучаснага бізнесмена. Раман Ільфа і Пятрова ўжо даўно парасхоплівалі на цытаты, і я спадзяюся, што наша прэм'ера дадасць парачку крылатых фраз ва ўжытак.

**— У вас ёсць што-небудзь агульнае з Астапам Бэндэрам?**

— Напэўна, нейкая авантурная жылка, без якой я ніколі б не адважыўся адкрыць уласны тэатр.

**— Што плануеце паставіць яшчэ?**

— У наступным сезоне з'явіцца «Блакітнае шчанё» — мюзікл для ўсёй сям'і, для якога Генадзь Гладкоў і Юрый Энцін дадаткова напісалі новую музыку і вершы. Так што ў знаёмай гісторыі з'явяцца новыя сюжэтныя хады. Яшчэ думаем над прапановай кампазітара Аляксандра Зацэпіна паставіць касмічны дзіцячы мюзікл «Таямніца трэцяй планеты». Наш рэжысёр Анастасія Грыненка марыць пра музычны спектакль «Тыль» Гладкова. На самай справе Генадзь Ігаравіч многае нам можа «падкінуць», так што пакуль мы ў працэсе выбару. Наогул трэба шукаць варыянты пастановак для маладзёжнай аўдыторыі. Але з гэтым складана, праблема аўтараў у нашым жанры вельмі вострая.

**— Многія цяпер адхрышчваюцца ад савецкай эпохі, узгадваючы толькі дрэннае. Аднак узоры савецкага мастацтва ўвайшлі ў нашу гісторыю і засталіся ў пэўных сферах неперагўзыдзенымі. «Тэрыторыя мюзікла» таксама актыўна карыстаецца створаным тады. Няўжо сучасны музычны тэатр здрабнеў настолькі, што няма чаго паставіць?**

— У СССР сапраўды было зроблена шмат класнага: музыкі, літаратуры, спектакляў, фільмаў... І гэта пры наяўнасці цэнзуры, насуперак тагачаснай грамадска-палітычнай сістэме. Зараз ніхто нікому нічога не забараняе, але чамусьці эпахальных твораў не з'яўляецца. Шмат непрафесійных людзей ва ўсіх сферах, не толькі ў мастацтве. Таму, пакуль жывыя нашы майстры і ёсць яшчэ магчымасць учапіцца за іх, мы будзем ставіць спектаклі Гладкова і іншых аўтараў такога маштабу. У СССР межы былі зачыненыя, і творчы прадукт стваралі на аснове сваіх культурных каштоўнасцей, а цяпер абмен інфармацыяй адбываецца лёгка і ўсё становіцца крыху аднолькавым. Адметнага ў творчасці ўсё менш — усё больш камерцыйнага разліку і калькі з паспяховых «праектаў»: сеткавыя мюзіклы, пераносы спектакляў у іншыя тэатры... Лібрэта і музыка ўмелымі людзьмі пішуцца не ад душы, а для канкрэтнага выніку, для пэўнай аўдыторыі. Гэта адзін бок медаля, а іншы — пошласць, якой у савецкі час не было. Не буду казаць, што моцна пакутую ад яе. Я дарослы чалавек і сам абмяжоўваю сабе інфармацыйны паток. А вось мая 14-гадовая дачка самастойна справіцца з ім не можа. Дзеці яе ўзросту паглынаюць усё і не заўсёды разумеюць, што добра, а што дрэнна. Дарэчы, у Ільфа і Пятрова ў рамане ёсць цудоўная фраза: «Вы пошлы чалавек, Кіса, вы любіце грошы больш, чым трэба». Гэта мая любімая рэпліка Астапа, у апошні час яна звініць у маёй галаве ў абсалютна розных сітуацыях, не толькі тых, пра якія мы гаворым.

**— Чаму за гады супрацоўніцтва вас навучыў Генадзь Гладкоў?**

— Не журыцца. У ягоным жыцці былі розныя перыяды: узлёты, падзенні... Пры гэтым ён не стаў дрэнным чалавекам, не спіўся, не апусціўся, а, наадварот, працягваў пісаць, заўсёды дапамагаў людзям. Генадзь Ігаравіч шмат працаваў і знаходзіў у гэтым натхненне, крыніцу жыццёвых сіл. Такім і павінен быць сапраўды творчы чалавек. Ён заўсёды думаў самастойна, незалежна ад таго, як гэта ўплывала на яго матэрыяльны дабрабыт.

**— А вы як кіраўнік тэатра можаце думаць незалежна ад фінансавай сітуацыі?**

— Магу толькі як артыст і пастаноўшчык. Цяпер усе гавораць пра грошы. На самай справе, калі б было цікава, ніхто б пра іх і не ўспомніў. Калі з табой працуе прафесіянал, не думаеш, які заробак. Нельга дазваляць сабе згасаць — трэба самога сябе за валасы выцягваць і шукаць нейкую дзейнасць, якая магла б вывесці з руціны і нуды. Гладкоў так рабіў і працягвае рабіць: піша тое, што яму падабаецца. Некаторыя яго калегі па цэху апынуліся за бортам, калі знікла кампартыя. А Генадзь Ігаравіч наўмысна трымаўся далей ад палітыкі і пісаў «простыя» рэчы. Яго называлі дзіцячым кампазітарам. Але час усё расставіў па месцах. Напэўна, і ў мяне ў жыцці адбылося нешта падобнае. Па многіх прычынах у Музычным тэатры, дзе я служу пятнаццаць гадоў, мне стала нецікава. Хацелася прафесійнага росту, і «Тэрыторыя мюзікла» дала новы творчы імпульс.

**— Цяпер усе эканомяць. На чым можа сэканоміць тэатр?**

— Скажу, на чым эканоміць нельга: на іміджы тэатра, раскручванні свайго калектыву. Калі не паважаюць акцёраў, не ганарацца імі, то ў ім ніколі не будзе па-сапраўднаму творчага выніку. Таму ў нас у тэатры быў і будзе культ асобы артыста. А ўсё астатняе — дэкарацыі, касцюмы, аранжыроўкі, святло, гук — гэта чыста тэхнічныя рэчы, якія знаходзяцца ў злучаных сасудах. Трэба больш у адной пазіцыі — эканоміш на іншай — гэта значыць «пераліваеш» грошы туды-сюды да патрэбнага балансу.

**— Як у вас атрымліваецца сумяшчаць дзве ролі — артыста і кіраўніка?**

— Артыст у якасці дырэктара тэатра — самы лепшы варыянт для калектыву, але толькі калі кіраўнік сам ужо не грае. Калегам трэба мяне ўспрымаць як партнёра, а не як начальніка, да якога і дакрануцца нельга. Калі ты не хочаш кідаць сцэну, то павінен быць гатовы да рознага роду неспадзяванак: панібрацтва з аднаго боку і пэўнага вакууму на пляцоўцы — з другога. А калі з табой як з партнёрам будуць працаваць на адлегласці выцягнутай рукі, гэта ўжо дрэнна для гледача. З адным з маіх тэатральных кіраўнікоў мы так і існавалі на пляцоўцы. Я кідаўся да яго з абдымкамі і воклічам «Тасіла, сябра мой!», а ён мне ў вуха: «Не прыціскайся моцна, кашулю выпацкаеш!». Чалавек не грае — у яго зусім іншая дзейнасць у галаве ў гэты час. Ад такога падвення асобы, напэўна, ніхто не застрахаваны, таму і сумяшчэнне прафесій — небяспечная рэч.

**— Ці можа кіраўнік тэатра быць летуценнікам і рамантыкам?**

— Абавязаны такім быць. Асабіста я мару пра тое, каб у «Тэрыторыі мюзікла» з'явіўся свой дом, каб мы перасталі бадзяцца па рэпетыцыйных кропках і здымаць сцэну, каб у нас акрэслілася сваё кола гледачоў, больш шырокае, чым цяпер. Каб нас добра ведалі ў горадзе і ў краіне, каб мы ўплывалі на творчае жыццё тут. Нейкія тэатральныя калектывы з'яўляюцца ўвесь час, але калі да іх ніхто не прыслухоўваецца, то які сэнс ва ўсім гэтым? Я ж хачу, каб людзі сачылі за намі, думалі «О! У «Тэрыторыі мюзікла» прэм'ера, трэба схадзіць». Тэатр павінен быць любімым і модным, інакш ён не патрэбны.

**Наталля КАПЛІНА**



*Сумесны праект штотыднёвіка «ЛіМ»
і Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі*

# Бібліятэчны сшытак

**22 мая 2015 г.**

# Вернасці вершы

**Творчая сустрэча з айчыннымі паэтамі са Светлагорска Ізяславам Катляровым і Соф'яй Шах адбылася ў межах святкавання 70-годдзя Вялікай Перамогі ў Прэзідэнцкай бібліятэцы Рэспублікі Беларусь.**

Кніга Ізяслава Катлярова «Вернасць» складаецца пераважна з успамінаў паэта пра ваенны і пасляваенны час. Урыўкі з паэмы «Брыдскі мох», якая займае ў гэтым зборніку ключавое месца, прадставілі публіцы трэцякурснік Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Сяргей Лапаніцын ды акцёр і рэжысёр Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Рэспублікі Беларусь Алег Вінярскі. Алег Аляксандравіч прадэкламаваў і ўрывак з паэмы Ізяслава Катлярова «Вучань Вечнасці», што таксама ўвайшоў у кнігу.

Падчас імпрэзы Ізяслаў Катляроў падкрэсліў: «Вернасць» — зборнік дакументальны: тут няма прыдуманых прозвішчаў і падзей. Паэма «Брыдскі мох», гісторыю стварэння якой Ізяслаў Рыгоравіч распавёў гледачам, паэтам перажыта: яго бацька прайшоў дзве вайны: Фінскую і Вялікую Айчынную.

«Вернасць» змяшчае і вершы пра пасляваеннае дзяцінства і юнацтва І. Катлярова, вянок санетаў, прысвечаны бацьку-франтавіку...

Соф'я Шах, спадарожніца жыцця І. Катлярова, прадставіла свае пераклады асобных вершаў творцы і аўтарскую паэзію. Каласальны ўнёсак Ізяслава Рыгоравіча ў айчынную культуру адзначыў мастак Канстанцін Вашчанка.

У Ізяслава Катлярова актыўная жыццёвая пазіцыя: пастаянна ўдзельнічае ў прапагандзе ідэй патрыятызму і духоўна-маральных каштоўнасцей грамадства. На думку дацэнта кафедры гісторыі паўднёвых і заходніх славян гістарычнага факультэта БДУ, кіраўніка грамадскага аб'яднання «Абароны памяці і праўды аб Вялікай Айчыннай вайне» Сяргея Александровіча, І. Катляроў прадаўжае традыцыі Аляксандра Твардоўскага і Аркадзя Куляшова. Яго творам, у прыватнасці паэме «Брыдскі мох», уласціва глыбокая дэталізацыя, тут — не толькі літаратура, але гісторыя, этнаграфія.



Прамаўляе Ізяслаў Катляроў.

Паводле меркавання паэта і перакладчыка Міколы Мятліцкага, галоўны герой паэмы «Брыдскі мох» — спакутаванае чалавечае сумленне. Такія кнігі, як «Вечнасць», памнажаюць духоўныя сілы.

З выхадам кнігі «Вернасць» І. Катлярова павіншавала дэпутат Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі Галіна Філіповіч. Прачыталі свае вершы маладыя паэты Аліна Карпіцкая і Ігар Пятровіч. Цёплае слова пра паэта прамовіў мастак Эдуард Астаф'еў. Творы І. Катлярова прагучалі і ў аўтарскім выкананні.

Ізяслаў Рыгоравіч перадаў у дар Прэзідэнцкай бібліятэцы амаль чатыры дзясяткі кніг, сярод якіх і тыя, што належаць пяру Соф'і Шах. Падзячны ліст за плённае супрацоўніцтва і ў межах святкавання юбілею перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне І. Катлярову ўручыў дырэктар кніжніцы Сяргей Квачан.

**Яна ЯВІЧ**



Фота Кастуся Дробава

*Падчас імпрэзы (злева направа): а. Фёдар Поўны, Алег Вінярскі, Сяргей Александровіч і Мікола Мятліцкі.*

*Скарбніца*

# Лідскія чытанні

Трэція Лідскія чытанні, прысвечаныя 175-годдзю з дня нараджэння Францішка Багушэвіча, прайшлі ў Лідскай раённай бібліятэцы імя Янкі Купалы. Удзел узялі краязнаўцы і бібліятэкары, шматлікія прыхільнікі творчасці паэта.

Да лідскіх даследчыкаў далучыліся выкладчыкі-філолагі з БДУ — Ірына Багдановіч і Ігар Запрудскі. Ірына родам з Ліды, яна стала вывучае творчасць класіка беларускай літаратуры. Уразіў яе ўласны верш, прысвечаны Францішку Багушэвічу. Ігар Запрудскі у сваю чаргу змог знайсці паралелі ў творчасці Багушэвіча і Васіля Быкава, чым вельмі зацікавіў аўдыторыю.

Пастаянныя ўдзельнікі чытанняў — краязнаўцы Леанід Лаўрэш, рэдактар часопіса «Лідскі летапісец» Станіслаў Суднік і навуковы супрацоўнік літаратурнага аддзела гісторыка-мастацкага музея Алесь Хітрун. Так, С. Суднік закрануў тэму «Францішак Багушэвіч у паўстанні 1863 года: легенды, здагадкі і факты».

Госця з Воранаўшчыны, метадыст раённай бібліятэкі Вольга Юрго, падзялілася краязнаўчымі знаходкамі пра некаторыя моманты з жыцця паэта ў Доцішках. Менавіта тут у 1863-м ён працаваў настаўнікам у школе, адчыненай уладальнікам маёнтка Аляксандрам Звяровічам (Жвіровічам).

Галіна Курбыка, галоўны бібліёграф Лідскай раённай бібліятэкі імя Янкі Купалы, зрабіла агляд літаратуры пра жыццё і творчасць паэта і пазнаёміла прысутных з мультымедыйным выданнем «Не пакідайце ж мовы нашай беларускай...», падрыхтаваным Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі ў 2009 годзе да 170-годдзя Францішка Багушэвіча.

**Антаніна КАЗАКОВА**

# Пагуляем на ўроку?

Сустрэча юных чытачоў з Анатолем Зэкавым, ініцыяваная «Выдавецкім домам «Звязда», адбылася ў сталічнай дзіцячай бібліятэцы № 4. Хлопчыкі і дзяўчынкі пазнаёміліся з новымі кнігамі пісьменніка — «Зязюля Гулюля», «Як Гаўка ў космас збіраўся», «Вожык вёз сараканожак».

Анатоль Зэкаў правёў гульнявы ўрок для вучняў па роднай мове, літаратуры, матэматыцы і геаграфіі. Разам шукалі рускія адпаведнікі беларускім словам, рашалі матэматычныя задачы, разгадвалі геаграфічныя загадкі, адказвалі на пытанні.

***

Прадстаўляючы вучням 9 «А» класа сталічнай СШ № 157 Анатоля Зэкава, класны кіраўнік, настаўніца беларускай мовы і літаратуры Галіна Круглова нагадала, што пісьменнік ужо наведваў гэтую ўстанову. Ёсць і фотаздымак, зроблены падчас сустрэчы восем гадоў таму.

Новае выступленне Анатоля Зэкава стала своеасаблівай справаздачай за апошнія гады. Ён чытаў вершы і пароды з новых кніг, выдадзеных за гэты час, згадваў вясёлыя выпадкі, падгледжаныя ў жыцці і пераўвасобленыя ў прозу, якая ўвайшла ў новую кнігу «Вінегрэт пад фуршэт» (хутка пабачыць свет у выдавецтве «Мастацкая літаратура»).

Вучні задавалі госцю пытанні, набывалі кнігі на ўспамін пра сустрэчу.

***

Слуцкі раён — радзіма дзіцячага пісьменніка, першага рэдактара часопіса «Вясёлка» Васіля Віткі. Таму вясёлкаўцы, не толькі сённяшнія, але і былыя, тут частыя госці. Сярод іх і лаўрэат прэміі імя Васіля Віткі Анатоль Зэкаў.

У раённай бібліятэцы наладзілі аж дзве сустрэчы з пісьменнікам: спачатку для вучняў малодшых класаў, а потым — для старшакласнікаў. Першым аўтар расказваў казкі, чытаў вершы і загадваў загадкі, за правільныя адказы на якія ўручаў каляндарыкі ад Выдавецкага дома «Звязда», а другіх забаўляў вясёлымі гісторыямі, іранічнымі вершамі і дасціпнымі пародыямі.

***

«Дзеці вайны» — сумесны праект Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры і Саюза пісьменнікаў Беларусі, прысвечаны 70-годдзю Перамогі. У самы пярэдадзень юбілею праект «завітаў» у Мінскі дзяржаўны прафесійны ліцэй № 3 машынабудавання. Пачалася сустрэча хвілінай маўчання ў памяць пра загінулых у гады Вялікай Айчыннай вайны. Навучэнцы паглядзелі відэафільм. Верш Ніла Гілевіча «Ты кажаш: я не ведаю вайны» выканала супрацоўніца гэтай установы Вольга Шаўчэнка.

Падчас імпрэзы адбылася прэзентацыя новай кнігі Анатоля Зэкава «Параненая памяць», якая нядаўна пабачыла свет у серыі «Дзеці вайны» выдавецтва «Чатыры чвэрці». Творы з гэтага зборніка ліцэістам прадставіў сам аўтар. Напрыканцы сустрэчы загадчык культурна-адукацыйнага аддзела музея Лідзія Шагойка прачытала вершы паэта-франтавіка Аляксея Пысіна.

**Анатоль ЗАРЭЦКІ**

*Пуцявіны*

# З музай па жыцці

Сустрэча навучэнцаў Мінскага раённага ліцэя з паэтам, пісьменнікам і перакладчыкам Уладзімірам Скарынкіным ды яго жонкай Валянцінай Скарынкінай-Луцэвіч, стрыечнай пляменніцай Янкі Купалы, прайшла ў Ратамскай сельскай бібліятэцы.

Падчас імпрэзы «Усё пачынаецца з любові» Уладзімір Максімавіч успомніў гады свайго безбацькоўскага ваеннага дзяцінства, юнацкага і творчага станаўлення. Госць зачытаў радкі з «Дон Жуана» Дж. Байрана ў сваім перакладзе. Распавёў пра творчае супрацоўніцтва з Уладзімірам Мулявіным і ансамблем «Песняры» — у рэпертуары артыстаў пасля гэтага з'явілася песня «Белая Русь».

Больш як 50 гадоў побач з паэтам крочыць па жыцці Валянціна Пятроўна. Гледзячы на гэтую пару, слухаючы вершаваныя радкі пра каханне — нібы трапляеш у век высакародных дам і галантных кавалераў.

**Алена ЗУБОВІЧ**

# Рукапісы вайны

**Міжнародная навукова-практычная канферэнцыя «Гэты дзень мы набліжалі як маглі...» прайшла ў Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Да арганізацыі форуму спрычыніліся Аддзяленне гуманітарных навук і мастацтваў і Інстытут гісторыі НАН, Акадэмія кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь, Навукова-даследчы інстытут Узброеных Сіл і Ваенная акадэмія Рэспублікі Беларусь, Рэспубліканскае дзяржаўнае таварыства «Веды» і Прадстаўніцтва Рассупрацоўніцтва ў нашай краіне.**



Дырэктар ЦНБ НАН Аляксандр Груша сярод удзельнікаў канферэнцыі.

Сярод гасцей — ветэраны Вялікай Айчыннай, былыя дзеці вайны, ветэраны працы. Музычна-літаратурная вечарына, канцэрт з удзелам ансамбля лірычнай песні Аддзялення гуманітарных навук і мастацтваў НАН Беларусі, дзіцячага харэаграфічнага калектыву «Данс-Мікс» сярэдняй школы № 17 спалучыліся з вершамі і музычнымі творамі ў гонар подзвігу нашага народа.

Адкрылася ў межах святочнай праграмы і некалькі выстаў. Аддзел абслугоўвання чытачоў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа НАН Беларусі падрыхтаваў экспазіцыю «Гэты дзень мы набліжалі як маглі...». На паліцах — сучасныя навуковыя і навукова-папулярныя выданні, прысвечаныя Вялікай Айчыннай на тэрыторыі Беларусі. Унікальныя дакументальныя матэрыялы ваенных часоў, што захоўваюцца ў фондах аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў, прадставілі ў экспазіцыях «Выданні часоў Вялікай Айчыннай вайны» і «Радзіме — радок і жыццё».

Да ўвагі ўдзельнікаў канферэнцыі і матэрыялы з асабістых архіваў беларускіх пісьменнікаў — удзельнікаў вайны: К. Крапівы, П. Глебкі, П. Панчанкі, М. Лужаніна, А. Вялюгіна, Я. Брыля, П. Пестрака, М. Машары. Асабліва каштоўныя творы пісьменнікаў у рукапісным варыянце, створаныя падчас вайны, іх франтавыя лісты, пасведчанні, даведкі, баявыя характарыстыкі...

Большую частку экспазіцыі складаюць перыядычныя выданні: цэнтральныя газеты — «Правда», «Известия», «Советская Белоруссия» і прыфрантавыя, шматлікія падпольныя і партызанскія выданні: ад рэспубліканскіх, абласных, раённых газет да насценных лісткоў і маладзёжных антыфашысцкіх бюлетэняў. Сярод іх — «Кліч Радзімы» Ельскага РК КП(б)Б, «Красный партизан» Васілішскага РК КП(б)Б, «Ленінец» Плешчаніцкага РК КП(б)Б і Мінскага партызанскага злучэння, «Партизан Белоруссии» Пухавіцкага падпольнага РК КП(б)Б. Партызанскі насценны друк прадстаўлены газетай «Молодежь Белоруссии в борьбе за Родину. Комсомольский бюллетень», «Сталинское племя. Ежедекадная газета межрайонного комсомольского комитета», «Мы отомстим. Газета Н-ской партизанской бригады»...




Кніга з калекцыі П. Глебкі. На форзацы — экслібрыс уласнага кнігазбору паэта.




Зборнік вершаў «Слуцкі пояс» (1943) А. Астрэйкі — кніга з калекцыі П. Панамарэнкі з дарчым подпісам аўтара: «П. К. Панамарэнка — кіраўніку бальшавікоў Беларусі на ўспамін. Анатоль Астрэйка. 5.11.1944 г.».

На пачатку вайны ў Гомелі быў наладжаны выпуск газеты «Раздавім фашысцкую гадзіну». У яе афармленні актыўна ўдзельнічалі беларускія мастакі, сярод якіх — вядомы скульптар Заір Азгур. У 1942-м газета пачала выдавацца ў Маскве, рэдагаваў яе Кандрат Крапіва. У асноўным аўтарскім калектыве — беларускія літаратары: Янка Купала, Якуб Колас, Кузьма Чорны, Пятрусь Броўка... Сатырычны лісток «Партызанскае жыгала» выходзіў у падпольнай друкарні партызанскага атрада «Камсамолец» у Налібоцкай пушчы. Рэдагаваў газету Янка Брыль.

Багатая калекцыя падпольнага і партызанскага друку часоў вайны, якая захоўваецца ў кнігасховішчы аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў, умяшчае амаль 600 друкаваных асобнікаў. Яна пачала фарміравацца з 1960-х гадоў. Часткова матэрыялы былі атрыманы ў дар ад акадэміка АН Беларусі Кандрата Крапівы, акадэміка АН Беларусі Івана Краўчанкі, ваеннага журналіста Віктара Стальнова. Падараваны бібліятэцы камплект газеты «Раздавім фашысцкую гадзіну» змяшчаў амаль усе нумары за 1942 — 1944 гг. З таго часу і пачалося фарміраванне збору перыядычных выданняў, якія выходзілі ў Беларусі падчас акупацыі.

У маі 1980-га ў кніжніцу паступіў архіў беларускага гісторыка І. С. Краўчанкі. Сярод дакументаў была падборка падпольных перыядычных выданняў Вялікай Айчыннай. Калекцыя акадэміка — плён шматгадовага збірання рарытэтаў.

У 1986 г. фонд бібліятэкі папоўніўся беларускімі партызанскімі газетамі (усяго 62 назвы) ад журналіста Васіля Стальнова, які працаваў падчас вайны і пасля Перамогі ў беларускай прэсе. У яго падборцы — газеты-аднадзёнкі, газеты-лістоўкі, іншыя падпольныя і партызанскія выданні.

Амаль што ўсе дакументы захаваліся ў адзінкавым экзэмпляры, шмат назаўсёды страчана. А тыя, што засталіся, практычна невядомыя і недаступныя масаваму чытачу. З выхадам факсімільнага выдання «І паўстаў народ», працавалі над якім супрацоўнікі аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў, гэты недахоп ліквідаваны. Бібліяграфічны паказальнік «І паўстаў народ» выйшаў у 2005 г. у выдавецтве «Беларуская Энцыклапедыя» і змяшчае адсканаваныя копіі падпольных партызанскіх газет, часопісаў, плакатаў, лістовак, якія захоўваюцца ў нашым аддзеле.

Прадстаўлены на выстаўцы былі таксама кнігі з серыі «Бібліятэка маладога партызана» і «Героі Айчынай вайны», выданні з асабістай бібліятэкі кіраўніка падпольных абкомаў і райкомаў ЦК КП(б) Беларусі П. Панамарэнкі, творы Якуба Коласа, Янкі Купалы, Кузьмы Чорнага, Кандрата Крапівы, Пятра Глебкі, Янкі Брыля, Аркадзя Куляшова, Пімена Панчанкі, Петруся Броўкі, Максіма Танка і інш. Сярод выданняў — зборнік вершаў А. Астрэйкі «Слуцкі пояс», надрукаваны ў 1943 г. у падпольнай тыпаграфіі слуцкай газеты «Народны мсціўец», паэма А. Куляшова «Сцяг брыгады», адзначаная Дзяржаўнай прэміяй БССР. Гэтыя сціплыя выданні тады выходзілі невялікімі тыражамі ў Ташкенце, Фрунзэ, Маскве, Мінску. Цяпер з аўтографамі і ўладальніцкімі запісамі.

**Алена ДЗЕНІСЕНКА,**
**навуковы супрацоўнік аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў ЦНБ НАН Беларусі**

# Ад селькара да лаўрэата

**Магілёўшчына адзначае 95-годдзе з дня нараджэння заслужанага дзеяча культуры БССР Аляксея Пысіна.**

Славуты ўраджэнец Краснапольскага раёна прайшоў вялікі жыццёвы і творчы шлях ад радавога сельскага карэспандэнта і салдата-франтавіка да паэта, журналіста і перакладчыка, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы. У Магілёўскай абласной бібліятэцы адбыліся традыцыйныя Пысінскія чытанні.

На паэтычны вечар ваеннай лірыкі А. Пысіна «З вайной, як з асколкам, у сэрцы» сабраліся пісьменнікі, моладзь, чытачы кніжніцы. Ганаровы госць імпрэзы — дачка паэта Любоў Аляксееўна — выказала словы ўдзячнасці супрацоўнікам бібліятэкі за вялікую работу па ўшанаванні памяці бацькі.

У межах чытанняў узнагародзілі пераможцаў літаратурнага конкурсу «У нашай памяці жыве», які ладзіўся бібліятэкай сумесна з Магілёўскім абласным аддзяленнем Саюза пісьменнікаў Беларусі з нагоды 70-годдзя Вялікай Перамогі і ўшанавання памяці паэта-франтавіка А. Пысіна. Адна з мэт — падтрымка маладых талентаў.

У межах Пысінскіх чытанняў — глыбокае вывучэнне жыцця і творчасці паэта, таму пошукавая і даследчая дзейнасць вядзецца па розных напрамках. Гэта і даследаванне матэрыялаў у фондах кніжніцы, і супрацоўніцтва з Магілёўскім абласным аддзяленнем СПБ. Добрыя сувязі наладжаны з сям'ёй Аляксея Васільевіча — яго ўдавой Еўдакіяй Сямёнаўнай і дачкой, якія перадалі нам у дар асабістыя рэчы паэта і кнігі з яго бібліятэкі.

Бібліятэка актыўна супрацоўнічае з Беларускім дзяржаўным архівам-музеем літаратуры і мастацтва, дзякуючы чаму стала ўладальніцай копій унікальных архіўных фотаздымкаў, рукапісаў і дакументаў, якія тычацца жыцця і творчасці А. Пысіна. Гэтыя матэрыялы пакладзены ў аснову юбілейнай выстаўкі «З будучым мінулае сшываю» ў Музейным пакоі гісторыі кнігі і бібліятэкі.

Шмат артыкулаў Аляксей Васільевіч напісаў пра любімы Магілёў. Адгукаўся друкаваным словам на ўсе значныя падзеі, што адбываліся ў горадзе. Паэт А. Пысін асвятляў і літаратурна-мастацкае жыццё Магілёўшчыны, творчасць беларускіх мастакоў і пісьменнікаў, дапамагаў аўтарам — даваў парады, падтрымліваў таленавітых. Многія з тых пачаткоўцаў сталі потым вядомымі творцамі. Настаўнікам называлі Аляксея Пысіна Анатоль Сербантовіч, Святлана Басуматрава, Зміцер Марозаў, Апанас Палітыка, Алесь Пісьмянкоў ды іншыя.

Данінай павагі майстэрству Пысіна-журналіста стала грунтоўная работа супрацоўнікаў аддзела маркетынгу абласной бібліятэкі па падрыхтоўцы персанальнага бібліяграфічнага паказальніка «Аляксей Пысін — журналіст», праца над якім вялася на працягу некалькіх год.

**Юлія КАСЦЮК,**
**вядучы рэдактар аддзела маркетынгу і бібліятэказнаўчай работы Магілёўскай абласной бібліятэкі імя У. І. Леніна**

# Зачароўваюць рарытэты

Энцыклапедычныя выданні XIX — пачатку XX ст. з аддзела рэдкай кнігі Гомельскай абласной бібліятэкі імя У. І. Леніна можна ўбачыць на выстаўцы «Кнігі, якія ведаюць усё» ў музеі Гомельскага палацава-паркавага ансамбля.

Энцыклапедыі карысталіся папулярнасцю ва ўсе часы. XXI стагоддзе падарыла свету электронныя носьбіты грунтоўнай інфармацыі. Але ніякія высокія тэхналогіі не здольныя замяніць чароўнасць старадаўніх фаліянтаў з пазалочанымі карашкамі і багатымі ілюстрацыямі. У экспазіцыі прадстаўлены такія манументальныя працы мінулых стагоддзяў, як «Сусвет і чалавецтва» Г. Крэмера, «Жывёльны свет» В. Гааке, «Рэальны слоўнік класічных старажытнасцей», «Зямля і жыццё» Ф. Ратцэля, «Народная энцыклапедыя навуковых і прыкладных ведаў», «Гісторыя чалавецтва», «Зямля і людзі» Э. Рэклю, першыя выданні знакамітых Вялікай і Малой савецкіх энцыклапедый, Літаратурная энцыклапедыя, Вялікая медыцынская энцыклапедыя і інш. Дарэчы, многія рарытэты былі раней часткай багатага кніжнага збору князёў Паскевічаў.

**Міра ІЎКОВІЧ**

# Фронт, тыл і партызанскі рух

**Нацыянальны гістарычны музей Рэспублікі Беларусь прадставіў выстаўку «70-годдзю Вялікай Перамогі прысвячаецца», арганізаваную сумесна з Дзяржаўным музеем гісторыі Санкт-Пецярбурга.**



*«Ленінград у блакадзе. Камсамольцы — абаронцы горада». 1941 — 1944 гг.*

Частку экспазіцыі складаюць фотаработы Барыса Кудаярава (1898 —1973) — вядомага савецкага ваеннага фотакарэспандэнта. Падчас вайны ён усе 900 дзён блакады правёў у Ленінградзе ў якасці фотарэпарцёра, зрабіўшы больш як тры тысячы здымкаў, якія сталі і сведчаннем мужнасці жыхароў Ленінграда, і афіцыйнай фотахронікай. Многія кнігі пра блакаду былі ілюстраваныя яго фотаздымкамі. Менавіта з работ Барыса Кудаярава можна даведацца, якім было жыццё горада ў самыя трагічныя дні. На выстаўцы прадстаўлены 148 фотаздымкаў, адабраных для калекцыі Дзяржаўнага музея гісторыі Санкт-Пецярбурга самім майстрам.

«Фронт», «Тыл», «Партызанскі рух» — тэматычныя раздзелы беларускай часткі выставачнага праекта, аб'яднаныя назвай «Наперад, да Перамогі!».




*Ордэн Перамогі. 1950 — 1960 гг. СССР.*

Прадметы штодзённага салдацкага побыту, зброя, абмундзіраванне, баявыя ўзнагароды воінаў Чырвонай Арміі, асабістыя рэчы генерала арміі Аляксея Антонава, маршала Савецкага Саюза Георгія Жукава, а таксама фатаграфіі франтавога карэспандэнта Аляксандра Дзітлова са збору Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь распавядаюць пра подзвігі герояў-франтавікоў.

Упершыню ў галоўным гістарычным музеі краіны прадстаўлены ордэн Перамогі. У раздзеле, прысвечаным тылу, — прымус, харчовыя карткі, калекцыя ваенных грашова-рэчавых латарэй СССР. Немагчыма ўявіць перамогу без партызанскага руху: прадметы побыту, партызанскі і падпольны друк, самаробныя ўзнагароды — сведкі перамогі над ворагам.

Дакументальныя фатаграфіі Барыса Кудаярава, унікальныя прадметы з калекцыі Нацыянальнага гістарычнага музея Беларусі ствараюць драматычную атмасферу памятных гадоў, дапамагаюць зразумець сілу духу савецкіх людзей.

**Вера ЛАНКОЎСКАЯ**

# Жывапіс. Без комплексаў

На сталічнай плошчы Якуба Коласа пачаў працу выставачны праект «Мастак і горад»: на вольным паветры размясцілася трыццаць рэпрадукцый карцін беларускага мастака Мікалая Селешчука. Для таго каб разгледзець казачныя работы ва ўсіх дэталях, у мінчан ёсць тры месяцы: выстаўка працягнецца да 10 верасня.

Калі гэты праект упрыгожваў вуліцы рэпрадукцыямі карцін Казіміра Малевіча і Марка Шагала, нават самыя далёкія ад жывапісу гараджанеківалі: «Ведаем, чулі». На жаль, імя айчыннага творцы М. Селешчука вядома далёка не ўсім, але адкрытая экспазіцыя павінна гэта выправіць.

Мікалай Селяшчук — самабытны мастак, графік, ілюстратар XX стагоддзя. Яго называлі «першапраходцам», «наватарам», беларускім Сальвадорам Далі. Нарадзіўся творца 4 жніўня 1947 года ў вёсцы Велікарыта Брэсцкай вобласці. Вясковы хлопчык, які ледзь не ў 15 гадоў упершыню ўбачыў цягнік, стаў эстэтам і жывапісцам еўрапейскага ўзроўню. На выстаўках каля яго чароўных і карнавальных сюррэалістычных карцін звычайна збіраліся натоўпы. Зрэшты, сам Мікалай Селяшчук прыцягваў погляды не менш: імпазантны, заўсёды з густам апрануты мужчына (доўгія плашчы і паліто, яркія пінжакі, шалікі і мяккія шапкі).

— Я вельмі іранічна стаўлюся да слова «зорка», але Селяшчук быў абсалютнай зоркай у мастацтве, — слушна адзначыў старшыня Беларускага саюза мастакоў Рыгор Сітніца. — Адразу было бачна, што ідзе асоба! Прыгожы, стыльны... Яго творчасць — рэвалюцыйная з'ява беларускага мастацтва, якое жывапісец пазбавіў комплексаў.



Фота Кастуся Дробава

*Панарама выстаўкі «Мастак і горад. Мікалай Селяшчук».*



*«Люблю цябе сустракаць». 1994 г.*

Больш за ўсё Мікалай Селяшчук любіў пісаць карціны ў сваёй майстэрні над крамай «Акіян» на вуліцы Казлова, сыходзіў адтуль толькі позна ўвечары. Жывапісец стаў віцэ-прэзідэнтам Беларускай акадэміі выяўленчага мастацтва, лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі Беларусі, лаўрэатам міжнародных конкурсаў, Чалавекам года ў галіне мастацтваў па рашэнні Кембрыджскага біяграфічнага цэнтра. У пачатку 1990-х ён лічыўся самым дарагім беларускім мастаком. Кажуць, што М. Селяшчук ніколі не дарыў сваіх работ нават сябрам: лічыў, што калі за палатно заплацяць, ставіцца будуць зусім па-іншаму. Творца трагічна загінуў у Тырэнскім моры Італіі 25 верасня 1996 года.

У выставачным праекце «Мастак і горад» сабраны рэпрадукцыі карцін М. Селешчука перыяду 1970 — 1995 гг., што дазваляе скласці рэтраспектыву яго творчасці. Экспазіцыя суправаджаецца тэкставым апісаннем на трох мовах: беларускай, рускай і англійскай. У ліку прадстаўленых работ наведвальнікі ўбачаць рэпрадукцыі такіх твораў майстра, як «Хроніка аднаго вечара», «Дарога дадому», «Не хадзі за мной, я сама заблудзілася», «Канец сезона туманаў», «Загнаны анёл» і інш. Арыгіналы карцін знаходзяцца ў музеях Беларусі, але вялікая частка — у прыватных калекцыях. Паводле дырэктара Цэнтра сучасных мастацтваў Наталлі Шаранговіч, Селяшчук — адзін з першых мастакоў, чые творы ахвотна куплялі калекцыянеры Беларусі і замежжа. Менавіта таму так складана арганізаваць яго выстаўку.

— З кожным годам значнасць гэтай фігуры толькі ўзрастае. Выстаўка працуе на час і стварае легенду горада. У Беларусі ўсё ёсць, трэба толькі ўмець бачыць, — лічыць народны мастак Уладзімір Тоўсцік, адзін з лепшых сяброў Мікалая Селешчука. — Да нас было пакаленне мастакоў, якое прайшло вайну, адлюстроўвала моцную грамадзянскую пазіцыю. І раптам з'явіліся людзі, якія ўбачылі свет па-іншаму: менш пафасна, больш разнастайна, канфліктна і фантастычна. Такое мастацтва не было грамадска запатрабаваным, і менавіта Мікола вывеў яго з андэграўнду ў еўрапейскі кантэкст.

На думку старшыні Беларускага саюза мастакоў Рыгора Сітніцы, нас доўга прывучалі, што мы местачковыя, несамастойныя. Ніхто не расказваў, што ў Беларусі тысяча гадоў гісторыі за плячыма. М. Селяшчук сваёй творчасцю цалкам змяніў беларускае выяўленчае мастацтва.

Каб крыху наблізіцца да сэнсу палотнаў беларускага Сальвадора Далі, трэба зазірнуць у яго дзённік: «Я шукаў мудрасць, гармонію высакароднай і высокамаральнай духоўнасці, казачную краіну вялікай прыцягальнай сілы, штосьці ад вядзьмарскай табліцы множання, з дапамогай якой адкрываюцца дзверы і вокны ва ўсе нябёсы. Я бачу ў гэтым схаваную незвычайную моц. Гэта цудоўнае адкрыццё, мудрасць жыцця, якая нам неабходна».

Выстаўка пад адкрытым небам «Мастак і горад» чацвёрты раз запар рэалізуецца ў Мінску пры падтрымцы Міністэрства культуры і Мінгарвыканкама. Ініцыятарамі праекта выступілі агенцтва сацыяльнага маркетынгу Grand BS і Цэнтр сучасных мастацтваў. Генеральны партнёр — банк ВТБ. У межах урачыстага адкрыцця на плошчы Якуба Коласа адбыліся выступленні аніматараў шматлікіх творчых калектываў сталіцы. Акцэнтам вечара стаў майстар-клас па маляванні, у якім узялі ўдзел айчынныя блогеры. Пад кіраўніцтвам мастачкі Аляксандры Страшко яны стварылі сюррэалістычныя арт-аб'екты па матывах творчасці Мікалая Селешчука.

**Таццяна ШЫМУК**

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

Заснавальнікі:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь,
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»,
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»»

Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ



Адрас рэдакцыі:
Юрыдычны адрас:
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

Адрас для карэспандэнцыі:
220013 Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.lim.by

Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 287-17-98
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14

Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

Падпісныя індэксы:
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»».
Дырэктар — галоўны рэдактар Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка: А. С. Мастоўскі
Камп'ютарны набор: Г. Я. Палякова
Стыльрэдактар: Н. А. Святлова
Нумар падпісаны ў друк 21.05.2015 у 11.00
Ум. друк. арк. 3,72
Наклад — 2273.
Кошт у розніцу — 3600 рублёў

Адкрытае акцыянернае таварыства «Чырвоная зорка»
ЛП № 02330/99 ад 14.04.2014
Зав. 1-ы Загарадны, 3, 220073, Мінск.

Заказ — 1472 г.
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12